— *Каго любіш?*
— *Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

27 ВЕРАСНЯ 1996 г. № 39 (3863) Кошт 2 500 руб.



# "ГАРКАТОЙ АДДАЕ АСАЛОДА..."

ТЮГаўскае саракагоддзе вымагала хітрасці: я прадбачліва ўладкавалася... пад тэлекамерай, за якой стаяў сам Валерый Булдык — аператар абазнаны, адметны і нават вытанчаны. Хітрасць жа была якраз у тым, што пяшчотныя дотыкі ягонай камеры да маёй патыліцы нічога адметнага й вытанчанага прапусціць проста не дазволілі б. І — не дазволілі...

Увогуле віншаванні тэатраў з чым бы там ні было падобныя адно на адно — ці то пратаколам, ці то забавязанасцю. ТЮГаўскае вылучала атмасфера, у якой нічога не раздражняла, не напружвала, не абавязвала. Ні трансляваны маналог... ТЮГаўскае сцэны, які разам з гледачамі ўважліва выслухваў клоун, ні прадстаўленне акцёраў трупы — разам з тымі адданымі сцэне службоўцамі, якія да сёння саромеюцца на яе, сцэну, ступаць (святое стаўленне, напраўду тэатральныя дачыненні!). Адзін за адным, адна за адною чырванелі перад публікай Тамара Аляксеева, Юззфа Конаш, Кацярына Малюціна, Даніла Цыпкін... Вершы й досціпы сыпаліся з вуснаў вядучых. Аўтарства ўгадвалася адразу — Артур Вольскі, паэт, драматург, загадчык літаратурнае часткі схаваўся ў ложы, каб цалкам насалодзіцца рэакцыяй публікі. Ад імя Прэзідэнта тэатр вітаў Алег Слука. Ад імя Міхаіла Чыгіра зачытвалі тэлеграму. Міністр культуры Аляксандр Сасноўскі перадаў тэатру заказ на спектакль "Шчаслівыя жабракі", — як паводле міністра, дык з назовам сімвалічным. Аляксей Дудараў распавёў, як атрымаў першую вытворчую траўму — артыстам ТЮГа і як незабыўна іграў з Людмілай Цімафеевай у спектаклі "Эдзіт Піяф"... Безумоўна, "для жанчын тэатра" на сцэне складалі кветкі, безумоўна, прыехаў Мікалай Пінігін — віншаваць і Іван Пінігін — здымаць віншаванні. Безумоўна, Зоя Белахвосцік, Віктар Манаеў ды Аляксандр Гарцуеў, акцёры, якія працавалі з рэжысёрам Андрэем Андросікам, не далі

*(Працяг на стар. 3)*





# "ГАРКАТОЙ АДДАЕ АСАЛОДА..."



(Працяг. Пачатак на стар. 1)

забыцца на тое, што ён, цяперашні мастацкі кіраўнік ТЮГа — іхняе, купалаўскае гадоўлі. Маскоўскі рэжысёр Алена Даўгіна, вядомая сваімі ўдзеламі ў беларускіх дзіцячых фестывалях, прадстаўляла дзіцячы тэатр, якому ўжо семдзесят пяць гадоў, і шчыра зычыла дажыць да такіх самых гадоў беларускаму ТЮГу. Вядомы мультыплікатар Алег Белавусаў (цяпер прадстаўнік Беларускай асацыяцыі кінавідэапрадзюсераў і дыстрыб'ютараў) абвясціў, што тюгаўка Вера Кавалерава, акрамя ўсіх відавочных вяршыняў, скарыла адну няўгледную, зрабіўшыся... "лепшым зайцам Савецкага Саюза". А ўвогуле былы тюгавец Белавусаў прыйшоў... кідаць кветкі да ног улюбёных артыстаў. Акцёр і прадстаўнік Беларускай акадэміі мастацтваў Уладзімір Мішанчук чытаў вершы з эпіграфам — Янкі Купалы. Уладзімір Ліпскі, акрамя сцвярджэння, што "тэатр уяўляецца яму сямейным дзіцячым тэатрам", падарыў спадзяванне: як толькі ў рэспубліцы зацвердзяць ордэн "Сябра дзяцей", Дзіцячы фонд будзе хадайнічаць, каб ордэн N 1 быў дадзены ТЮГу. А потым Галіна Кухальская, Ларыса Горцава і Наталля Якаўлева (з падтрымкай трупы) спявалі песню з радкамі пра тое, што "гаркатой аддае асалода..." Напэўна, нават тая асалода, што ўзнікае ад вялікай радасці прызнання. Каб напрыканцы вуснамі Андрэя Андросіка падзякаваць Богу, што на нашай зямлі, як і на ўсім свеце, ёсць дзеці, і што для дзяцей існуюць тэатры, і што бацькі ім купляюць туды кветкі....

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота М. МІНКОВІЧА і М. ПЯТРОВА, БЕЛТА*



*Віншуем!*

# ХАЙ НАТХНЯЕ, ДАЕ ЗДАРОЎЕ І МОЦ

З 60-годдзем Старшыню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шарэцкага, ураджэнца Навагрудчыны, сардэчна павіншавала Згуртаванне навагрудцаў свету. У тэлеграме, падпісанай старшынёй рады Яўгенам Лецкам і сакратаром Разаліяй Аляксандровіч, гаворыцца:

"Шаноўны Сямён Георгіевіч!

Мы, сыны і дочкі зямлі Навагрудскай, ад шчырага сэрца віншуем Вас са слаўным юбілеем, які Вы адзначаеце на высокай дзяржаўнай пасадзе, у нялёгкі, нават драматычны для дзяржавы час, калі здрада нацыянальным інтарэсам, хлусня і крудельства, спекуляцыя на векавой забітасці, адсутнасці свядомасці і гістарычных ведаў у значнай часткі народа, парушэнне Канстытуцыі і дэмакратычных нормаў грамадскага суіснавання ўзводзяцца ў ранг афіцыйнай палітыкі. Вы зрабілі ўсё магчымае, каб працаваць з вышэйшай выканаўчай уладай у згодзе, дасягнуць узаемапаразумення, але, як выяўляецца, пераканаліся, што гэта немагчыма, таксама, як выключана лагоднае суіснаванне светлай стваральнай сілы, якую ўвасабляе сабою Бог, з цёмнай сілай. Вы змушаны былі зрабіць выбар — мабыць, нялёгкі, пакутлівы, але, спадзяёмся, у дзейнасці Вашай, як Старшыні Вярхоўнага Савета — вызначальны. Мы захоплены Вашай мужнасцю, палітычнай, скіраванай у будучыню, мудрасцю, і ганарымся Вашай нязломнасцю і прынцыповасцю.

Прыміце, дарагі Сямён Георгіевіч, ад нас, сяброў Згуртавання навагрудцаў свету, сціплы падарунак — выпушчаны да юбілею Першасталіцы, нашага слаўнага горада Навагрудка, гадзіннік з выявай Арханёла Міхаіла. Хай ён ахоўвае Вас у гэтым, поўным супярэчнасцяў і непрадказальнасцяў жыцця, натхняе на добрыя справы, дае здароўе і моц у вызначальны для Бацькаўшчыны час.

Жыве Беларусь!"

Лімаўцы ад душы далучаюцца да гэтых цёплых, шчырых віншаванняў і добрых зычэнняў шаноўнаму юбіляру.

# НА РАДЗІМЕ "ВЕЧНАГА ВАНДРОЎНІКА"

У сераду, 25 верасня, скончыўся мастацкі пленэр імя Язэпа Драздовіча. Згодна з традыцыяй, заключная кропка падобных мастацкіх акцый — вернісаж. Так было і гэтым разам. У мястэчку Гарадзец у памяшканні мясцовага музея рамёстваў і народнага побыту адкрылася выстава жывапісу і графікі, створаных удзельнікамі пленэру на зямлі Язэпа Драздовіча. Дарэчы, Гарадзецкі музей афіцыйна лічыцца аддзелам культурна-асветніцкага цэнтра імя Я. Драздовіча, што ў Германавічах.

Але распачалася ўрачыстая імпрэза не ў Гарадзецкім музеі, а непадалёк ад Гарадца, побач з творам, якому зала непатрэбна. Гэта вялікі камень-валун ля шасейнай дарогі. На ім скульптар Алесь Шатэрнік выбіў выяву Пагоні (у якасці ўзору ўзяты вядомы твор Драздовіча) і адпаведны тэкст у памяць вялікага мастака. Каля гэтага каменя і сабралася грамада мясцовых людзей, мастакоў-удзельнікаў пленэра, гасцей з Мінска — літаратараў, навукоўцаў, журналістаў. Над грамадою лунаў бел-чырвона-белы сцяг і адмысловы "сцяг Драздовіча" — сімвал пленэра: дзве паласы — сіняе неба, белая зямля, паміж небам і зямлёю — гара, увенчаная залатым замкам, на небе — месяц і знічкі.

Добра сказаў Уладзімір Арлоў: "Калі едзеш праз нашы занядбаныя паселішчы і мястэчкі, пачынаеш міжволі думаць, што культурнае жыццё канчаецца за межамі мінскага праспекта Скарыны. Але, на шчасце, гэта не так. Ёсць культурныя асяродкі. І адзін з іх ствараецца на нашых вачах".

Інфармацыя для роздуму...

Так ужо заведзена, што вялікія мастацкія імпрэзы прадугледжваюць сустрэчы творцаў са сваімі гледачамі. Планаваліся такія сустрэчы і на пленэры Драздовіча. Прынамсі, са школьнікамі. Але, як высветлілася, ёсць сакрэтны ўказ улад пра тое, каб не дапускаць сустрэч моладзі (найперш школьнікаў) і вайскоўцаў (найперш суворайцаў) з мастакамі і пісьменнікамі, увогуле з людзьмі творчых прафесій. Мясцовая "вертыкаль" парупілася, каб указ выконваўся...

Выстава твораў пленэра будзе вандраваць па Беларусі, як калісь вандраваў па краіне дзядзька Язэп. Яе пабачаць у вялікіх гарадах і мястэчках. А сам пленэр варта было б зрабіць традыцыйным. Збіраць мастакоў на радзіме Драздовіча калі не штогод, дык хоць раз у два гады.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ

У мінулым нумары мы паведамлялі, што ў Мінску праходзіў Міжнародны форум "Улада і свабода слова". Заключны дзень яго работы са сталіцы перамясціўся ў Пухавіцкі раён. У аўторак, 17 верасня, удзельнікі і шматлікія госці, сярод якіх былі і журналісты, наведалі Музей матэрыяльнай культуры "Дудуткі", што знаходзіцца непадалёку ад вёскі Дудзічы.

Дудзічы — старажытнае паселішча, якое згадваецца яшчэ ў знакамітым "Слове пра паход Ігаравы". Бліжэй да нашага часу з гэтай мясцінай звязаны імёны такіх вядомых на Беларусі родаў, як Прозары, Заранкі-Гарбоўскія, Ельскія. У 1769 годзе віцебскі ваявода Ю. Прозар, калі парадніўся з родам Заранкаў-Гарбоўскіх, пабудаваў тут палац, які аддаў у пасаг дачцэ Розе, калі яна выйшла замуж за Станіслава Ельскага. Той жа праз пэўны час перадаў яго ў спадчыну свайму сыну Каралю, дзякуючы якому Дудзічы і ператварыліся ў своеасаблівую "сядзібу муз". Справа ў тым, што сын Караля Міхал стаў кампазітарам і скрыпачом-віртуозам, яго добра ведалі ў канцэртных залах не толькі Беларусі, а і Польшчы, Германіі. А брат Міхала Ельскага Аляксандр увайшоў у гісторыю як гісторык, пісьменнік, краязнаўца, сябра і біёграф В. Дуніна-Марцінкевіча.

Дзякуючы фірме "Поліфакт", а найперш пісьменніку Я. Будзінасу, які ўзначальвае яе, апошнім часам робіцца шмат дзеля зберажэння памяці аб Ельскіх: упарадкоўваецца парк, зноў струменіць крынічка, гаючую ваду з якой каштавалі знакамітыя браты і іх родзічы. А яшчэ комплекс "Дудуткі" — аднойчы вятрак, ганчарная і дрэваапрацоўчая майстэрні, пякарня, што паўтарае тую, якой карысталіся нашы продкі... Усё гэта і было паказана ўдзельнікам і гасцям Форуму.

Змаглі яны пазнаёміцца і з трыма выстаўкамі. Дзве з іх працавалі і раней. Першая "Матэрыяльны свет Каці Бяссмертных" — майстэрства аплікацыі. Другая — "Незалежная прэса: свабода і адказнасць". Адкрыццё ж трэцяй адбылося менавіта ў гэты дзень. Назва яе "Алесь Адамовіч" сама гаворыць за сябе. У экспазіцыі, арганізаванай Беларускім Пэн-цэнтрам і Саюзам беларускіх пісьменнікаў, — шматлікія здымкі, што дазваляюць прасачыць яркі і шматгранны шлях, пройдзены выдатным пісьменнікам, грамадзянінам, барацьбітом за правы чалавека і дэмакратам.

Выступаючы на адкрыцці выстаўкі, прэзідэнт Беларускага Пэн-цэнтра Васіль Быкаў адзначыў, што не першы год мы ўдзяляем гадзіны памяці Алеся Адамовіча. Канечне, было куды б лепш, калі б гэтак шырока яго ўшаноўвалі пры жыцці, тым больш, што падобнага стаўлення Алесь Міхайлавіч да сябе заслужыў. Ды нічога не зробіш: такой была савецкая традыцыя, паводле якой па-сапраўднаму чалавека можна ацаніць толькі пасля смерці. Але тое, што прызнаецца пасля смерці, ісцiннае, — працягваў В. Быкаў, яму наканавана вечнасць і яно не падлягае пераацэнцы. Асабліва гэта правільна ў дачыненні да А. Адамовіча. А ён і дарагі нам тым, што быў антыкамуністам, дэмакратам, гуманістам. І невыпадкова сёння яго аўтарытэт аспрэчваюць беларусы, рускія, многія славянскія і ўвогуле еўрапейскія нацыі, бо гэта вышэйшы кшталт пісьменніка, філосафа, грамадзяніна. Канечне, найперш Алесь Адамовіч наш, беларускі, але мы будзем рады, калі гэтак скажуць пра яго рускія, гэтак скажуць украінцы, гэтак скажуць прыбалты і народы ўсёй Еўропы...

Па традыцыі былі названы новыя лаўрэаты прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра, прэміі, якія носяць імя А. Адамовіча. Прэміі, дыпломы і медалі з выявай Алеся Міхайлавіча атрымалі: па намінацыі радыёпубліцыстыка — карэспандэнт беларускай службы "Радыё Свабода" Віталь Тарас (за глыбокую аналітычнасць у асвятленні палітычнага працэсу на Беларусі); газетная публіцыстыка — галоўны рэдактар газеты "Свабода" Ігар Гермянчук (за высокі прафесіяналізм у барацьбе супраць аўтарытарнага рэжыму); за тэлевізійную публіцыстыку — карэспандэнт тэлекампаніі НТВ Аляксандр Ступнікаў і аўтар праграмы "Беларускі Дом" на нацыянальным тэлебачанні Людміла Хейдарава (першы — за грамадзянскую мужнасць і прафесіяналізм, а Л. Хейдарава за шэраг перадач); па намінацыі кінапубліцыстыка — аўтар сцэнарыя Рыгор Барадулін і рэжысёр Сяргей Пятроўскі (за стварэнне фільма "Забораўна", прысвечанага трагізму другой сусветнай вайны).

"Гэтыя людзі ў пэўным сэнсе героі нашай сённяшняй дэмакратыі", — сказаў В. Быкаў, прадстаўляючы новых лаўрэатаў.

На канцэрце ў гонар удзельнікаў і гасцей Форуму прагучалі творы С. Манюшкі, М. Кл. Агінскага, Ф. Шапэна, Ельскіх, а тым самым на якую гадзіну вярнулася тая атмасфера, што і панавала некалі ў Дудзічах.

У рэзалюцыі Форуму выказана занепакоенасць уціскам свабоды слова на Беларусі, прыводзяцца асноўныя прыклады гэтага і, у прыватнасці, гаворыцца: "Без свабоды слова ніякі рэферэндум, ніякае палітычнае рашэнне не можа лічыцца законным".

У другой рэзалюцыі патрабуецца вызваленне сямі грамадзян Украіны, якія прымалі ўдзел у маніфестацыі "Чарнобыльскі шлях".

**Н. К.**

*Варункі*

# ДЗВЕ ДУШЫ

**Вельмі часта душы нашых папярэднікаў-адраджэнцаў раздвойваліся паміж палітыкай і культурай. Сяўцоў было мала, а працы — як заўсёды. Прыгожа некалі выказаўся пра іх адзін літаратар: у адной руцэ яны трымалі меч, а ў другой — пяро. Пацвярджэннем гэтага правіла з'яўляецца і жыццё Вацлава Ластоўскага — адной з самых цікавых і шматбаковых асоб нашага Адраджэння.**

**Перабіраючы неяк паперы з музея імя Івана Луцкевіча ў Віленскай акадэмічнай бібліятэцы, я натрапіў на некалькі ягоных недрукаваных вершаў, напісаных у 20-х гадах, адзін з якіх па сваім настроі нагадаў мне нечым лёс самога Вацлава Юстынавіча. Седзячы на эміграцыі ў Коўне, сваю тугу і журбу па Беларусі ён выказваў апасродкаваным чынам, праз паэзію. Лепшыя сыны Беларусі былі расцярушаныя па свеце, а на Радзіме панавала-ятрылася бальшавіцкае сабачае вяселле. Гэта ўжо было. Дык вось ён, верш:**

## КНЯЗЬ РОСЦІСЛАЎ

**Князь Росціслаў<br>ў зямлі чужой<br>Ляжыць на дне рачном,<br>Ляжыць ў кальчузе баявой<br>З паломленым шчытом.**

**Дняпра падводныя красы<br>Гуляці любіць з ім —<br>І чэшуць воя валасы<br>Грабенцам залатым.**

**Яго дарэмна дзень і ноч<br>Княгіня дома жджэ:<br>Павезла ладзья яго проч,<br>Назад не прывязе.**

**Ў гушчы лясной,<br>ў зямлі чужой<br>Ў рацэ яго прыпын.<br>Яму папы за упакой<br>Не справілі памін.**

**Ды з ім падводныя красы,<br>З ім дзеў вясёлых сты<br>І чэша воя валасы<br>Іх грэбень залаты.**

**А як на бераг посвіст іх<br>Сівыя хвалі мчыць,<br>Кружыцца<br>ў лесе жоўты лісць,<br>Яры Пярун грыміць.**

**Тады са сну<br>на дне рачном<br>Рантоўна прабудзясь,<br>Вачамі мерклымі кругом<br>Паводзіць бледны князь.**

**Жану-малодку ён заве<br>Дармо. Яго жана,<br>Праждаўшы марна<br>цэлы год,<br>З другім ужо яна.**

**Заве к сабе і брата ён,<br>Яго абняць бы рад,<br>Ды почтам грыдняў акружон<br>Балюе дома брат.**

**Заве ён полацкіх папоў<br>Вяліць сябе адпець,<br>Ды да айчызны слабы зоў<br>Не можа даляцець;**

**І ён панік на ржавы шчыт<br>Ізноў давечным сном,<br>Паміж русалак цяжка спіць<br>Адзін на дне рачном...**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## ВЫСТАВА АБРАЗОЎ

**"Новае жыццё помнікаўстаражытнага мастацтва" такую назву мае выстава, якая адчынена ў выставачнай зале Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка. На ёй прадстаўлена больш за трыццаць раней не вядомых гледачам абразоў беларускай школы іканапісу XVII-XIX ст. са збору калекцыі жывапісу Музея старажытнабеларускай культуры.**

**Гэта выстава мае сваю асаблівасць: наведвальнікі знаёмяцца на ёй не толькі з цікавым беларускім мастацтвам, але і могуць ацаніць выдатную працу мастакоў-рэстаўратараў.**

**Выстава адбылася дзякуючы намаганням калектыву супрацоўнікаў і мастакоў-рэстаўратараў Музея старажытнабеларускай культуры, якія ў 1996 г. ажыццявілі праект пад назвай "Рэстаўрацыя, вывучэнне і прапаганда помнікаў старажытнабеларускага мастацтва".**

**На выставе прадстаўлены як асобныя унікальныя абразы — узоры рэгіянальных мастацкіх школ, так і цэлыя комплексы, напрыклад, амаль цалкам захаваны іканастас XVIII ст. з Драгічынскага раёна. Спецыяльна для полацкай экспазіцыі былі адабраны і выстаўлены 3 жывапісныя палотны з Полаччыны.**

**На ўрачыстым адкрыцці выставы прысутнічалі захавальнік фондаў Музея старажытнабеларускай культуры А. Ярашэвіч і мастак-рэстаўратар С. Чысцік, якія правялі невялікую экскурсію і адказалі на шматлікія пытанні наведвальнікаў.**

**Н. КАРЖЫЦКАЯ,**
**загадчык аддзела выяўленчага мастацтва Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка**

## "БЕЛАРУСКАЕ ДРЭВА" —

**так называецца выстава работ народных майстроў, што адкрылася ў выставачнай зале Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.**

**Работы выставы наглядна дэманструюць захаванне традыцый майстроў і іх развіццё на Беларусі.**



**Наведвальнікі выставы могуць не толькі палюбавацца выстаўленымі работамі, а і набыць ці заказаць іх.**



**Арганізавалі выставу — Беларускі Дом народных традыцый і Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

*На здымках: знаёмства з выставкай; сваю інкруставаную карціну "Нясвіж" Уладзімір Цяслюк стварыў з розных парод драўніны.*

Рэзананс

# ЯКОЕ СЁННЯ НА ДВАРЭ ТЫСЯЧАГОДДЗЕ?

### НЕКАТОРЫЯ РАЗВАГІ З ПРЫЧЫНЫ АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ

Рэпрэсіі... Слова, якое ў дачыненні да сталінскага рэжыму мо ўпершыню ў нас прагучала з вуснаў Мікіты Сяргеевіча Хрушчова на XX з'ездзе КПСС у сакавіку 1956 г. Раней у падручніках гісторыі генацыд супраць свайго народа называўся барацьбой супраць "ворагаў народа".

Ярлык "вораг народа" навешваўся сотням тысяч людзей — ад маршала і прафесара да радавога калгасніка. Што да сем'яў "ворагаў", дык і для іх была прыдумана абрэвіятура "СВН" — сям'я ворага народа, якая аб'яўлялася па-за грамадствам.

Пра масавыя рэпрэсіі 30-х гадоў напісаны тамы кніг — ад успамінаў былых вязняў да высокамастацкіх твораў. Асаблівая цікавасць да гэтых трагічных старонак савецкай гісторыі тлумачыцца перш за ўсё імкненнем выкрыць злачынны характар таталітарнага камуністычнага рэжыму.

Прыадчыніліся архівы, і з шматлікіх дакументаў падрабязна можна даведацца аб тым, як рыхтаваліся справы ў засценках НКУС, як "рэпецiравалі" палітычныя працэсы 30-х гадоў. І здавалася б, можна з поўнай падставай заявіць: "Усё ясна!", "Усё вядома!".

А між тым, гісторыя сталінізму, і перш за ўсё яго найбольш змрочныя старонкі, застаюцца прадметам вострых спрэчак. Перыядычна актывізуюцца апалагеты сталінізму, якія заклікаюць грамадства павярнуць назад, ва ўлонне "гераічных часоў", выкладзеных у "Кратком курсе истории ВКП(б)". Іх лозунг можна было б сфармуляваць так: "Назад да сталінізму з чалавечым тварам!" Як быццам ён можа мець чалавечы твар.

Наглядным пацвярджэннем таму служыць публікацыя доктара гістарычных навук, прафесара А. Залескага "Как хочу, так и ворочу (Антиисторические импровизации историка Игоря Кузнецова)" ("Народная газета" 24 мая 1996 года).

Дазволю сабе ўзнавіць адзін фрагмент з яе:

"В своих предыдущих статьях Игорь Кузнецов рассказывает читателям о несчастной доле ссыльных на изолированном острове, о плавающих по реке трупах. Но ведь ни плач детей, ни трупы, ни кости и черепа (которые теперь изображают в периодической печати и даже на обложках книг) — никакие подобные "эмоциональные ужасы" ни на йоту не приближают нас к решению вопроса об обоснованности репрессий. Не сенсации, а состав преступления (в соответствии с советским уголовным законодательством того времени) обязан показывать каждый исследователь, берущийся за освещение данной проблемы. В опубликованной работе надо доказать: совершило ли рассматриваемое лицо (или группа лиц) преступление или нет", І далей: "...Среди деформаций социализма наиболее острые споры вызывают политические репрессии, хотя далеко не все они были необоснованными".

Атрымліваецца нібыта ўсё гранічна проста. Зыходзячы з такога прынцыпу, можна апраўдаць злачынствы і фашысцкага рэжыму, які кіраваўся нацысцкімі законамі.

Я думаю, А. Залескі цудоўна ведае, што больш за 2/3 асуджаных за "контррэвалюцыйныя злачынствы" ў 30—50-я гады ва ўстаноўленым законам парадку прызнаны рэпрэсіраванымі **беззаконна**.

Што ж робяць сёння прыхільнікі мінулага таталітарызму? З аднаго боку, яны стараюцца не надта канкрэтызаваць рысы таго мінулага, да звароту якога заклікаюць. З другога — у меру сваіх сіл і здольнасцей пнуцца давесці, што не так, маўляў, кепска ўсё было, былі толькі некаторыя дэфармацыі", перашкаджалі толькі асобныя недахопы, памылкі. Перш за ўсё, такім чынам яны спрабуюць "облагородить" масавыя рэпрэсіі і тэрор.

Адны, прызнаючы пад націскам фактаў наяўнасць сталінскіх злачынстваў, спрабуюць апраўдаць іх варожым акружэннем, дрэнным уплывам на правадыра паплечнікаў, залішнім стараннем органаў НКУС, якія крыху "перастараліся"...

Але з'яўляюцца і такія, каму непатрэбны ўжо нават гэтыя "фігавыя лісткі". Прама аб'яўляючы або намякаючы на тое, што рэабілітацыя ахвяр сталінізму фальсіфікаваная, яны заклікаюць адрадзіць і ўзяць на ўзбраенне сталінскую тэорыю і практыку "абвастрэння класавай барацьбы", жалезнай рукой расправіцца з новым пакаленнем "ворагаў народа".

Вядома, такім людзям, як А. Залескі, наўрад ці можна што-небудзь даказаць пры дапамозе, кажучы яго словамі, "эмацыянальных карцінак", якімі для яго з'яўляюцца трупы мільёнаў ні ў чым не вінаватых нашых суграмадзян. Паспрабую зрабіць гэта пры дапамозе статыстыкі.

Праўда, шматлікія аўтары па-рознаму ацэньваюць колькасць рэпрэсіраваных за гады савецкай улады. Таму назаву толькі адну лічбу, якую паведаміў старшыня Камісіі па справах ваеннапалонных, інтэрніраваных і прапаўшых без вестак пры прэзідэнце РФ: у перыяд з 1929 па 1953 гады ў выніку сталінскіх рэпрэсій у СССР загінулі 21, 5 мільёна чалавек ("Известия", 8 жніўня 1995 года).

Адпаведна з паведамленнем афіцыйных органаў РБ, ахвярамі палітычных рэпрэсій на тэрыторыі Беларусі стала больш за 600 тысяч чалавек. Не лішне было б таварышу Залескаму азнаёміцца з артыкулам намесніка старшыні Камітэта па архівах і справаводстве РБ, кандыдата гістарычных навук В. Адамушкі "Бясстрасная мова лічбаў" ("Звязда", 17 мая 1996 года), дзе аўтар прыводзіць статыстычныя дадзеныя, атрыманыя на падставе апрацоўкі 40.300 картак персанальнага ўліку на жыхароў Мінска, Мінскай і Віцебскай абласцей, якія былі рэпрэсіраваны судовымі і пазасудовымі органамі ў 20—50-я гады і рэабілітаваны ў 1955—1994 г.г. Сярод 40. 300 грамадзян Беларусі, якія сталі ахвярамі палітычных рэпрэсій, па сацыяльным паходжанні было: а) з рабочых — 3180 (7,89 працэнта); б) з сялян — 31738 (78,75 працэнта); в) са служачых — 1551 (3,85 працэнта); г) з дваран — 810 (2 працэнты); д) з памешчыкаў — 79 (0,2 працэнта); е) з купцоў — 253 (0,63 працэнта); ж) з духавенства — 319 (0,79 працэнта).

В. Адамушка прыводзіць лічбы аб мерах пакарання, якімі былі падвергнуты нашы суграмадзяне: 116 (2,94 працэнта) з іх былі сасланы, 4460 (11,07 працэнта) высланы, а астатнім па прысудзе суда або рашэнні пазасудовых органаў былі вызначаны розныя тэрміны пазбаўлення волі ад 1 да 25 гадоў. 12,864 чалавекі (31,92 працэнта) былі расстраляны.

Якім жа трэба валодаць цынізмам, каб усе гэтыя жудасныя факты лічыць простымі выдаткамі ў барацьбе за пабудову "светлай будучыні"?! Ці мо апраўдаем усё славутым сталінскім-людаедскім: "Лес сякуць — трэскі ляцяць"? Але ж хочацца спытаць у таварыша Залескага словамі Пастэрнака: "Какое нынче на дворе тысячелетье?" Забыліся?

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

Пошта

# ПАКАЯННЕ НЕМЦАЎ. А НАШЫХ?

***"Берлінскі акорд" — так называўся артыкул У. Мехава, змешчаны ў "ЛіМе" 21 чэрвеня г.г. Штуршком для яго напісання з'явілася паездка аўтара ў Нямеччыну на "Дні Беларусі", арганізаваныя шэрагам мясцовых дэмакратычных арганізацый з нагоды 50-х угодкаў з дня нападу гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз.***

***Артыкул-эсэ У. Мехава з яго вірам згадак, асацыяцый і пытанняў выклікаў цікавасць лімаўскіх чытачоў.***

***Адзін з водгукаў на згаданую публікацыю, хоць і адрасаваны непасрэдна У. Мехаву, мы, са згоды аўтара ліста, вырашылі надрукаваць.***

Паважаны Уладзімір Львовіч!

Вельмі спадабаўся апублікаваны ў "ЛіМе" ваш артыкул "Берлінскі акорд". Мяне ў ім найбольш уразіла адно — адчуванне віны немцаў перад народамі Савецкага Саюза, у тым ліку і перад беларусамі. Не пакідае адчуванне віны не толькі ўдзельнікаў вайны, але і "без віны вінаватых", немцаў пасляваенных пакаленняў. Яны бяруць на сябе віну сваіх блізкіх і нават сваіх продкаў. Цяжка жыць з гэтай віной двум пакаленням народа. Але яны нясуць на сабе гэты крыж. І робяць усё магчымае, каб хоць крыху загладзіць гэтую віну. Адны арганізоўваюць дабрачынныя фонды, другія пішуць кнігі аб злачынствах гітлераўцаў. І ў сябе немцы зрабілі шмат, каб такое злачынства больш не паўтарылася ні ў іх, ні за межамі іх краіны.

А ў мяне ў сувязі з прачытаным узніклі вось якія думкі: а ці менш злачынстваў зрабіла наша родная савецкая ўлада і камуністычная партыя супраць свайго народа і супраць народаў чужых? А ці пакаяліся яны перад сваімі ахвярамі? Не, не пакаяліся ні перад мёртвымі, ні перад жывымі! Бо цяпер ахвяры сталінскіх рэпрэсій пастаўлены нават у горшыя ўмовы, чым ахвяры фашыстаў. А іх жа каталі сваі! Каты ж, часам, ходзяць у заслужаных людзях.

З якім скрыпам прызнаў Гарбачоў (праз паўстагоддзя!) віну Расіі перад палякамі за Катынь.

А колькі злачынстваў нарабілі савецкія войскі ў Афганістане! Загінула там нашых дзяцей 15 тысяч, паранена з паўсотні тысяч. Афганскага ж мірнага насельніцтва знішчана каля мільёна. А пакалечана, значыць, яшчэ больш. І за што?

Штосьці не чуваць, каб кіраўніцтва Расіі (ці іншай рэспублікі, у тым ліку і нашай) выступіла хоць з адным словам пакаяння перад народам Афганістана. Штосьці не чуваць, каб рускія, ці беларусы, якіх там пабывала тысяч са сто, выступілі ў прэсе з пакаяннем і пачалі арганізоўваць фонды дапамогі пакалечаным афганскім дзецям ці пісалі б кніжкі аб гэтых злачынствах. Праўда, пісалі Прахханаў, Чаргінец і іншыя кнігі пра афганскую вайну. Але ці аб тым, аб чым трэба? А калі С. Алексіевіч паспрабавала напісаць праўду аб афганскай вайне, дык вунь як накінуліся на яе і ветэраны і "афганцы", і журналісты... Па судах зацягалі, у прэсе мажучь дзёгцем.

Ні адзін "афганец" не прынёс свае ўзнагароды, каб кінуць іх перад рускім "Белым домам", як гэта зрабілі калісьці амерыканцы пасля В'етнама (а мы захапляліся такім іх учынкам!). Наадварот, арганізоўваюцца яны ў розныя саюзы "воінаў-афганцаў" і з гонарам дэманструюць свае медалі, нават і перад школьнікамі. І мала гэтага, яшчэ і патрабуюць ставіць ім помнікі на плошчах ды прыраўнуць іх да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны.

Вы можаце сказаць, што салдаты не вінаваты. Іх — паслалі. Але ж і немецкія салдаты не ўсе добраахвотна ішлі ў Расію. А ці шмат помнікаў эсэсаўцам вы бачылі ў Германіі? Я аб іх у газетах не чытаў. І ці шмат гуляе былых эсэсаўцаў па вуліцах з "жалезнымі крыжамі" на грудзях?

А ў нас маўчаць і людзі, і пісьменнікі, і журналісты. Наадварот, некаторыя журналісты рэкламуюць "подзвігі" расійскіх салдат па адрыванні вушэй у чачэнцаў. І аб гэтым маўчыць і грамадскасць, і пісьменнікі.

Я ні ў чым не папракаю Вас асабіста. Я, як звычайны чытач з глыбінкі, магу выказаць гэты папрок пісьменнікам наогул, Саюзу пісьменнікаў. Але ж ці дойдзе ён да іх сэрцаў?

**З павагай**
**І. ФУРСЕВІЧ**

*г. Докшыцы*

# ДА ТАІНСТВА ВЕРАВАННЯ НЕ ДАЛУЧАНЫ...

Уладзімір МЕХАЎ

1.

Досыць доўга быўшы штатным работнікам літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага радыё — рэдактарам, каментатарам, — я правёў у эфіры на зыходзе сямідзесятых — пачатку васьмідзесятых гадоў цыкл дыялогаў з віднымі дзеячамі нашай культуры. Паколькі пры гэтых гутарках перад мікрафонам нязмушана раскрываліся слухачам людзі неардынарныя, яркія, папулярныя — былі ў іх ліку Адамовіч, Азгур, Брыль, Быкаў, Караткевіч, Семяняка, Станюта, Шамякін, Цітовіч, яшчэ нямала асоб у вышэйшай ступені цікавых радыёаўдыторыі, перадачы тыя мелі дастаткова шырокі рэзананс. Я па сёння захоўваю прыемныя, дарагія мне пісьмы, што папрыходзілі на адрас радыё водгукамі на расказанае слыннымі пісьменнікамі, мастакамі, артыстамі, музыкантамі ў часе іхніх студыйных размоў са мною.

Захоўваю атрыманую тады ж ананімку — пра тое, які брыдкі голасам і ўвогуле пачварны вядучы ў гэтых размовах. Нашрайбавана была эпістала бездакорнай беларускай мовай, з усімі патрэбнымі коскамі, так што, здагадацца было няцяжка, накіраваў яе мне зычлівец з калегаў. І ў сувязі з тэмай, на якую намерыўся паразважаць, згадваю ўшчуванне, праглынутае неяк пасля таго, як прагучаў чарговы, не памятаю ўжо з кім, дыялог цыкла. З вышыні сваёй тадышняй ідэйнасці, на правах даўняга са мной знаёмства і, паводле слоў яе, гэтак жа даўняй да мае персоны сімпатыі, жанчына, поруч з якою працаваў калісь у Доме друку, выказала мне, сустрэўшы, не тое што дакор, але, безумоўна, з адценнем дакору здзіўленне:

— Валодзечка, вы ж такі разумны, асвечаны! Як жа дазваляеце сабе, нераўнуючы цёмная бабка каля царквы, ужываць у гаворцы папоўшчыну — "крый божа", "напраміл бог", "бог яму суддзя"? Вас жа слухаюць мільёны! З вас жа і вашых суразмоўцаў прыклад бяруць! А карыстаецеся лексікай, нібы падтрымліваеце рэлігійныя забабоны. Дзіўлюся, як вашае кіраўніцтва таго не заўважае!

— Значыць, не настолькі я разумны! — буркнуў, помніцца, у адказ. — І начальства, значыць, маю адпаведнае...

Запознена каюся, наконт начальства я зграшыў. У пытанні, што занепакоіла нечаканую фіксатарку маіх перадмікрафонных праколаў, трымалася яно, як гаворыцца, на належнай вышыні. Набегаўся, помню, з кабінета ў кабінет, адстойваючы ў рэпартажы з вечара Івана Мележа ў тэатры імя Купалы фразу "Дай вам бог здароўя!", — маркотна, як бы ў прадчуванні блізкага адыходу з жыцця, з удзячнасцю сказаную выдатным сынам беларускай зямлі людзям, што сабраліся яго вітаць. Крычаўдаводзіў: фраза гэтая — прачулае выяўленне сардэчнай узрушанасці, а не шматок амбоннай казані. Гучыць яна ў рэпартажы ўсё-такі з вуснаў Мележа, а не вясковага бацюшкі. Пабегаў дарэмна — не выкрычаў адмены перасцярожлівага загаду перадэфірнай кантрольнай інстанцыі, выразана было ідэалагічна небяспечнае з рэпартажнага рулона плёнкі. А экспансіўны Юра Ермалюк, шматгадовы пастанны вядучы радыёчасопіса "Для веруючых і няверуючых", часта заскокваў у пакой, дзе сядзеў і я, мала не ў роспачы. Напрыклад, з такім:

— Выкінулі ў мяне з выпуску пісьмо вернікаў, што ў парафіі святаром п'янюга. Зрабіў бы ты, сказалі, паслугу епархіі: п'янюгу памянялі б на непітушчага, райкому цяжэй стала б весці атэістычную прапаганду. Ашалець!..

Не давала кіраўніцтва радыёвяшчання падстаў на папрок у недастатковым заслоне хітрыкам рэлігійнікаў. Страх, што ў выпадку недагляду грымне грозная рэакцыя ўсемагутнага органа, які стаяў вышэй, змушаў глядзець ва ўсе вочы, слухаць ва ўсе вушы.

Іншая рэч, што шчыраванне было марным. Плёну, цяпер ясна, давала не больш, чым у яшчэ адным кірунку партыйна-дзяржаўнай заклапочанасці пазнейшая кампанія барацьбы з алкаголізмам. Ну, разам з тым, што пасеклі вінаграднікі, забаранілі выконваць у канцэртах "Застольную" Бетховена (падумаць, да чаго распуснік заклікае — "Бетси, нам грогу стакан!..."). Ну, непасрэдна на нашым радыё загадалі музычнай рэдакцыі выправіць радок у сімпатычнай песні Зарыцкага на словы Някляева, — Яраслаў Еўдакімаў заспяваў не "Лёс, як в і н о на палыне", а "Лёс, як н а п о й на палыне". Што ў выніку — зялёны змей звянуў у немачы?.. Тое ж у татальным змаганні з рэлігіяй. Змагаліся, змагаліся — што маем?

Ды на мяне смешна было тое падумаць, што ці не падумала сустрэтая знаёмая. Недапушчальна-шкоднае слоўнае смецце ў перадмікрафонную маю лексіку не падкідвалася прыхаваным пачуццейкам — стоенай верай у існаванне Вышэйшай сілы. Я ўсяго толькі гаварыў па-чалавечы. Як нармальна гаворыць і веруючы, і няверуючы.

2.

Гадоў блізка трыццаць назад я напісаў для нашага тэатра юнага гледача п'есу "Палёт" — драматычную навелу пра дзяўчыну-лётчыцу, што загінула ў Айчынную вайну, пра тое, як беражэцца сябрамі памяць аб ёй. Тэатральная драматургія жанр, хутка зразумеў, не мой, але што было, то было. Больш таго, калі пачаліся рэпетыцыі, напісаў тэксты песень для спектакля. Кепска, але тых тэкстаў не захаваў і не помню, хоць Сяргей Картэс даў ім тады прыемныя, запамінальныя мелодыі і акцёрамі ў касцюмах персанажаў п'есы песні хораша спяваліся. З адной цяпер магу прывесці толькі пачатак:

**Прыходзіць трывога**
**У светлы мой дзень.**
**Адна ў нас дарога**
**З табой, Авадзень!..**

Авадзень, рамантычны герой знакамітага рамана Этэль Войніч, аднаго з самых чытэльных моладдзю ў маю юначую пару, па п'есе з'яўляўся цэнтральнай дзейнай асобе ў сне. Зразумела, таму што нараджалася ў сэрцы дзяўчыны каханне, а пакаханы быў артыстам, які прыехаў у яе жаночую авіяцыйную часць з франтавым тэатрам і пры знаёмстве расказаў, што да вайны выходзіў у гэтай ролі на сцэну. Аднак яшчэ і таму, што постаць Авадня ў той час увасабляла для пакалення, да якога належала прыдуманая мною чацвёрка сяброў, самае высокае, — прынамсі, для многіх з пакалення. Ягоны максімалізм вабіў, ставіўся і браўся за ўзор для пераймання. Ва ўсіх выявах, і ў непрыманні рэлігіі таксама.



*Фота С. ГРЫЦА*

Аснова фабулы ў рамане — трагедыя адносін паміж непрымірымым да рэлігіі (юнаком у ёй балюча зняверыўся) рэвалюцыянерам Артурам Рыварэсам, што стаў таямнічым, няўлоўным, легендарным барацьбітом за вызваленне Італіі ад чужаземнага прыгнёту Аваднём, і ягоным бацькам, найглыбокім вернікам, адданым слугой царквы, у кульмінацыі падзей славутым кардыналам Мантанелі (ах, які складаны і ўражлівы вобраз яго стварылі ў савецкіх экранных версіях рамана Мікалай Сіманаў і Сяргей Бандарчук!). Дык маё "адна ў нас дарога з табой, Авадзень!" было — разумею гэта, зноў жа, цяпер — акцэнтаваннем вышыні "Авадлёвых" якасцей для персанажаў п'есы, для яе гледачоў, паўтараю, для пакалення, для мяне, урэшце, самога. Сярод усіх і той якасці, што спрычыніла драматычны духоўны разрыў сына з бацькам.

Адпаведна выхаваны (як і мільёны равеснікаў!) домам, школай, дзяржавай, я ставіўся да рэлігіі, як да зла, цемрашальства, і толькі. Падлеткам, помню, наіўна хацеў разгарнуць ва ўзнёслае апавяданне сюжэт карціны Рэпіна "Адмаўленне ад споведзі перад смяротнай карай". Калі блізка тады, як пісаў "Палёт", вышукваў матэрыял для дакументальнай рэчы пра Івана Пуліхава, у перадсмяротным яго пісьме (сацыяліст-рэвалюцыянер Пуліхаў быў павешаны ў Мінску за замах у студзені 1906 года на губернатара Курлова) успрыняў як сведчанне прынцыповасці, паслядоўнасці, цвёрдасці духу такое ў прачытаным: "Бацька прасіў прыняць папа... Я наадрэз адмовіўся супярэчыць сваім перакананням..."

Я не мог, зразумела, не бачыць, што ў грамадстве, найперш у асяроддзі інтэлігенцыі, адбываюцца ў гэтай сферы духоўнага жыцця відочныя змены. На месца абыякавасці, нават пагарды да рэлігійнасці прыходзяць цікавасць і павага. То ж былі шасцідзесятыя гады з ломкай шмат чаго ва ўстаялым, у поглядах, адчуваннях. У розгаласе стала шырыцца яшчэ нядаўна няўяўнае: бездакорна афіцыёзная публіцыстка пачала выпускаць нелегальны рэлігійны часопіс; сын папулярнага гумарыста і досыць частай на экранах актрысы кінуў універсітэт, падаўся ў святары; шматлаўрэатны канструктар, паміраючы, папрасіў запрасіць спавядальніка; складальнік багаборніцкіх камсамольскіх песень ахрысціўся.

Ды спачатку я ўсё гэта за сур'ёзнае не ўспрымаў. Лічыў піжонствам, дэманстрацыяй, какецтвам, модай. Меркаваў, гэта рэагаванне схільных да франдзёрства людзей на шматгадовы маральны, і не толькі маральны, пераслед дзяржавай вернікаў. А фронда то не маё, не ў натуры.

Але тое, што трапляла ў абсяг творчых інтарэсаў, тое, з чым проста сутыкаўся ў жыцці, прымушала задумвацца. Піжонства піжонствам, яго, бясспрэчна, ставала і стае ў з'яве, пра якую разважаю. Аршынныя крыжы на валасатых голых грудзях малайцоў з аглушальных вакальна-інструментальных ансамбляў і на далёка не манаскіх туалетах эстрадных ільвіц шчырасць іхняй набожнасці зусім не засведчваюць. Аднак спажывай для роздуму станавілася і іншае.

Нейкі час я быў вельмі зацікавіўся нарадавольцамі. Сёе-тое пра іх напісаў. І ў складаных, у бальшыні пакутных лёсах гэтых высакародных памкненнямі фанатыкаў, апантаных і згуртаваных ідэяй, вядома ж, глыбока памылковай, загадкай мне па сёння лёс Льва Ціхамірава. Няўрымслівы прыхільнік выбранай партыяй тактыкі тэрору, член яе кіруючага ядра, ён пасля грымотных крывавых акцый "Народнай волі", пасля яе разгрому і гібелі таварышаў на шыбеніцах і ў засценках, сам шчасліва пазбегнуўшы арышту, эміграваўшы, праз гады вярнуўся на радзіму пакаянным і трапятліва рэлігійным. Што яго перавярнула? Чаму пераварот адбыўся такога, не якога іншага кшталту?

Альбо яшчэ адзін лёс — паэта і філосафа Мікалая Мінскага. Памянёную карціну "Адмаўленне ад споведзі перад смяротнай карай" Рэпін стварыў пад уражаннем ад паэмы, напісанай ім, — друкавалася ў падпольнай газеце нарадавольцаў і называлася "Апошняя споведзь". А пражыўшы ў хістаннях між ідэалізмам і матэрыялізмам некароткі век, аўтар пратэстна-атэістычнай паэмы на схіле жыцця прыняў каталіцтва і пастрыгся ў Іспаніі ў манахі.

Ды што даўняе — "выбухала" і зусім блізка! Помню сенсацыйнае ў апараце рэспубліканскага тэлебачання. Выявілася, што адзін са старэйшых рэдактараў, у рэдакцыі — трэба ж! — навукова-асветных праграм, ветэран Айчыннай вайны, член партыі, да ўсяго яўрэй, больш за дзесяць гадоў як прыняты ў лона праваслаўнай царквы, акуратна пільнуецца яе канонаў. З партыі, зразумела, адразу выключылі (гэта цяпер у камуністаў-зюганаўцаў у Расіі дружба з папамі-антыдэмакратамі), з работы ўсё-такі не звольнілі. Час ужо стаяў перадгарбачоўскі, грамадская атмасфера ў краіне зыбалася, скандал з шырокім водгуллем палічылі непажаданым.

Крок ягоны, таго рэдактара, ужо ж ніяк не выглядаў какецтвам, данінай модзе. Гадавалася ў чалавека трое школьнікаў, было яму не да піжонства.

І мяняў я сваё меркаванне. Пераконваўся: прыход у рэлігійнасць — ён які ў каго. Камусьці сапраўды патрэбен адно для больш эфектнай самападачы, крыж у яго — элементам біжутэрыі. У кагосьці ж гэта знойдзенае выйсце з душэўнага крызісу, здабытае супакаенне і прасвятленне.

Так было, так застаецца.

3.

Апошнія гады я дзе-нідзе пабываў, як цяпер гаворыцца, у далёкім замежжы. Даводзілася там і выступаць. Перад рознымі аўдыторыямі. Здаралася, у прыхрамавых суполках. Натуральна, у такіх выпадках неаднойчы чуў пытанне пра адносіны мае і сям'і з рэлігіяй. Веруем, ці не. Калі веруем, то да якога належым веравызнання, ці часта ў сваім храме — царкве, касцёле, сінагозе — бываем. Калі не, то як да рэлігійнасці стаўлюся.

Адказваў, як ёсць. Што я і жонка цалкам уяўляем з сябе прадукт савецкага бязбожнага выхавання. Адносін З (прыназоўнікі вылучаю) рэлігіяй не маем, гаварыць штосьці можна толькі пра адносіны ДА рэлігійнасці. Расказваў пра эвалюцыю гэтых адносін. Ад задзірыста безапеляцыйнай у маладосці ўпэўненасці, што рэлігія ёсць опіум для народа, — да самаўколаў свядомасці ў хмарныя хвіліны на цяперашняй дарозе ўжо з кірмашу, што, можа, мы і абкрадзены ўнутрана нямала ў чым гэтым сваім, гаворачы сённяшнім жаргонам, *непрабойным* бязвер'ем.

Добра ведаю, што рэлігіі, дакладней, царкве — незалежна ад яе разнавіднасці — у дакор можна паставіць уга як многа. Скажам, бязбожным марксізмам праліта ў свеце мора крыві за параўнальна нядоўгі перыяд, што прайшоў пасля з'яўлення яго ў гісторыі чалавецтва (усяго ж паўтара стагоддзя!) і за яшчэ карацейшы тэрмін уладарання гэтай ідэалогіі ў розных краінах. Але рэлігіяй, царквой за тысячагоддзі веры людства ў пасмяротныя вечнасць у раі ці курчанне ў пекле праліта яе невымерна, канечне ж, больш. Рэлігія — гэта крыжовыя войны хрысціян і войны мусульман супраць няверных. Гэта кастры інквізіцыі і смяротныя прысуды па шарыяту. Гэта ў наш час бомбы ў Брытаніі, дзе ў Ольстэры каторае стагоддзе не мірацца пратэстанты з католікамі, і міжканфесійныя канфлікты ў Індыі, кожны з сотнямі, а то тысячамі ахвяр...

Аднак жа добра ведаю, і як многа за рэлігіяй такога, што заслугоўвае пашаны і ўдзячнасці. Што рэлігійным пачуццём натхняліся на сваё вяршыннае Бах і Мікельанджэла. Што не пераацаніць ролю царквы ў вяках у асветніцтве — ад стварэння балгарскімі манахамі братамі Кірылам і Мяфодзіем азбукі, якая ў аснове ўсходнеславянскага, у тым ліку цяперашняга беларускага, пісьма, да высакароднай, нярэдка самаахвярнай, па нашы дні, бывае, небяспечнай рупнасці місіянераў у набліжэнні да здабыткаў цывілізацыі аддаленай ад іх часціны чалавецтва.

Сярод запомненага з бачанага за мяжой — уражанні ад шырокай і разнастайнай па формах дабрачыннай дзейнасці царквы. Зноў-такі рознай канфесійнай прыналежнасці. Касцёлы Польшчы апякоўваюць уцекачоў з ахопленай братазабойчым вар'яцтвам, расшматанай на дзяржаўкі-ўдзелы колішняй Югаславіі. У лютэранскіх кірхах Германіі збіраюцца ахвяраванні і ладзяцца транспарты з гуманітарнай дапамогай нашым чарнобыльцам. Тамсама ў Германіі, у Гановеры паказалі нам дыхтоўную шматпавярховую камяніцу — прытулак для інвалідаў і адзінокіх старых, як яўрэяў, так і неяўрэяў, што быў пабудаваны і ўтрымліваецца тамтэйшым яўрэйскім рэлігійным паяднаннем.

У слоўніку замежных слоў, выдадзеным у Маскве ў 1949 годзе, слова "філантропія" тлумачыцца, як "одно из средств буржуазии обманывать трудящихся и маскировать свой паразитизм и свое эксплуататорское лицо посредством лицемерной, унизительной "помощи бедным" в целях отвлечения от классовой борьбы". Такое вось убівалася ў галовы наконт дабрачыннасці ("філантропія" па-грэцку дабрачыннасць), наконт выяўлення спагады тым, каму кепска, хто ў бядзе, слабасці, хворасці, нястачы, самай справядлівай і гуманнай, як дэкларавалася, ідэалогіяй. Рэлігія, бачым, сее ў душах іншае.

(Праця́г на стар. 15)

## СВЯТА ПАЭЗІІ Ў МАЛОЙ ЛЮЦІНЦЫ

**Імя заснавальніка новай беларускай літаратуры, яе першага класіка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча шанавалася і шануецца не толькі жыхарамі Малой Люцінкі, дзе доўгі час жыў і працаваў пісьменнік, але і высокімі кіраўнікамі Валожыншчыны. Пацвярджэннем гэтаму стала свята паэзіі, якое прайшло 22 верасня на месцы, дзе стаяла хата В. Дуніна-Марцінкевіча. Нягледзячы на тое, што трэба выбіраць бульбу і рыхтавацца да зімы, пакланіцца свайму земляку сышлося і з'ехалася шмат жыхароў з навакольных вёсак і нават з самога Валожына. Рэй вялі самадзейныя мясцовыя артысты, у выкананні якіх былі паказаны ўрыўкі з "Пінскай шляхты". Цудоўна глядзеліся на сцэне кіраўнікі мясцовага сельсавета, якія так выконвалі свае ролі ў "Ідыліі", што госці, якія прыехалі з Мінска, шкадавалі, што няма тэлебачання. А з Мінска прыехалі адзін са старэйшых беларускіх паэтаў Паўлюк Пранузa, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, пісьменнік Анатоль Сабалеўскі, а таксама валожынцы паэты Віктар Шніп і Валянцін Русакевіч, літаратуразнавец Язэп Янушкевіч.**

**Свята паэзіі ў Малой Люцінцы будзе традыцыйным і ў наступным годзе адбудзецца ў маі.**

**Н. К.**

## А РОДАМ З МІКАЛАЕЎШЧЫНЫ

**Жнівеньскай кніжкай у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" стаў зборнік вершаў Ніяны Загарэўскай "Хваля". Нарадзілася паэтэса ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна, скончыла Брэсцкі дзяржаўны педагагічны інстытут. Працуе выкладчыкам роднай мовы, літаратуры і гісторыі Беларусі ў нацыянальна-мастацкай гімназіі Брэста. З творамі Н. Загарэўская выступала ў абласных і рэспубліканскіх газетах, на старонках часопісаў "Першацвет", "Маладосць", была яна прадстаўлена і ў калектыўных зборніках "Дзень паэзіі" і "Берасцейскія карані".**

## "БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЧАСОПІС", N 3

**Намеснік міністра адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь Г. Дылян выступае з артыкулам "Праблемы гістарычнай адукацыі ў агульнаадукацыйных школах Рэспублікі Беларусь". Змешчаны таксама артыкулы М. Мацюшэўскай "Праблема навуковага гістарычнага разумення", В. Панюціча "Рэформы дзяржаўных сялян Беларусі (канец 50-х — 70-х гг. XIX ст.)", У. Тамсінава "Ваенныя паселішчы на тэрыторыі Беларусі ў першай чвэрці XIX ст.", заканчэнне артыкулаў А. Хацкевіча "Аб раззбраенні груповак Арміі Краёвай у Нарачанскай і Налібокскай пушчах (1943—1944)", Э. Іофе "Яўрэі на Беларусі".**

**С. Барыс прапануе "Слова пра айца Льва Гарошку". Тут жа публікуецца артыкул Л. Гарошкі "Уводзіны ў беларускую міфалогію". Сярод іншых матэрыялаў — "Новая знаходка на Беларусі (грашова-рэчавы скарб XV ст.)" М. Камароўскага, "Музей гісторыі медыцыны Беларусі" Т. Святловіч, "Дзве дарогі ў Германію" І. Сачанкі, "Іосіф Каэтанавіч Лагіновіч: нарыс жыцця і палітычнай дзейнасці" У. Ладысева, "Зноў пра герб "места Слуцкага" А. Цітова...**

## "МАСТАЦТВА", N 3

**У нумары змешчаны артыкулы М. Крукоўскага "Цела культуры духоўнай" (будова ўнутранай прасторы матэрыяльнай культуры), У. Мальцава "Юбілей неіснуючага тэатра", Т. Пыско "Позірк у гісторыю", Т. Мушынскай "Прыз "Бенуа дэ ля данс" — балету "Страсці", Т. Ільюшынай "Татальная фатаграфія" Яўгена Паўлава", Я. Шунейкі "Мастацтва супраць дубінак", М. Яніцкай "Зваць да свята", П. Васілеўскага "Ці толькі мінуўшчына?", Д. Падбярэзскага "Быў. Існуе. Будзе?", У. Мархеля і В. Скорабагатава "...Можам памножыць агульнае дабро", гутарка Т. Мушынскай з мастацкім кіраўніком і галоўным балетмайстрам ансамбля "Харошкі" В. Гаявой "Мая галоўная мэта — захаваць калектыў і ягоны унікальны рэпертуар...", справаздача Н. Бунцэвіч з "круглага стала", прысвечанага вынікам III Міжнароднага фестывалю авангарднай музыкі ("Накірунак — у сусветную прастору"), дыялог кінакрытыка Е. Бондаравай і кінарэжысёра В. Турава ("Трывогі і надзеі")... Ал. Марціновіч ("Гэты сур'ёзны "наіў") рэцэнзуе кнігу Р. Шауры "Самадзейнае выяўленчае мастацтва Беларусі. Жывапіс, графіка, скульптура", Г. Багданава ("Ад "дробнай" да "беларускай бальнай"...") — "Беларускія народныя лялькі" Л. Алексютовіч.**

---

## Паэзія

### Васіль ЖУКОВІЧ



●

**Я — беспрацоўны. Сумна так,**
**калі ў падземным пераходзе**
**мяне калека ці жабрак**
**пагаслым позіркам праводзіць;**

**і не лягчэй, як прабягу**
**ля барда, тоячы ўзрушэнне, —**
**даць міласціны не магу:**
**скразняк гуляе па кішэнях.**

**Паэт я, маю божы дар —**
**дасведчаныя кажуць людзі,**
**друкуюся за ганарар,**
**ды з ганарару сыт не будзеш.**

**Душой багаты, а — жабрак,**
**даўно ў нас парадоксы ў норме...**
**Я — беспрацоўны;**
**лёгка так**
**на мне дзяржава эканоміць!**

**У адпачынку плоць, адно**
**душою не адпачываю:**
**штодня людское бачу дно,**
**глыбока людзям спачуваю.**

**Людзей спагаду адчуваю.**
*1996*

### ХВІЛІНА МАКСІМА ТАНКА

**У перапоўненай залі,**
**дзе шмат пустога сказалі,**
**стомлены дрэмле паэт.**
**Дзень быў ягоны тлумны,**
**век быў ягоны хмурны,**
**быў неспакойны свет.**



**Ведайце, чалавекі:**
**змружыў паэт павекі,**
**бачыць каб сонца ўзыход,**
**каб нарачанскія хвалі**
**думкі яго пагайдалі,**

**каб нарачанскія хвоі**
**мроям далі узлёт.**
*1974—1989*

●

*Светлай памяці Юрыя АВЯР'ЯНАВА*

**Пякучая такая рана:**
**забіты Юра Авяр'янаў!**

**Чаму, завошта ён забіты?**
**Быў смелы і таленавіты...**

**Быў беларускі, быў свядомы...**
**Быў не заслужаны — вядомы.**

**Быў — і няма! Скразная рана.**
**Зло аніяк не пакарана.**

**Сляды злачынства ўсе расталі,**
**раней чым цела пахавалі.**

**Забіта плоць, і кроў забіта,**
**каб голас, вобраз стаў забыты?**

**А голас быў з душой суладны**
**і смерці ён непадуладны!**

**А вобраз быў высакародны,**
**ён нашай Будучыні — родны.**
*Студзень 1996*

### МАТУЛІ

**Тваю магілу то сняжок атуліць,**
**то дождж амые чыстаю слязой.**
**Я зрэдку гавару з табой, матуля,**
**у цішыні амаль што незямной;**

**гавораць думкі тут аб набалелым**
**без скрухі — з непраходзячай тугой.**
**Адно ці так жыву на свеце белым,**
**адвык пытаць, даўно асірацелы,**
**перад зямлі грудочкам ацалелым,**
**перад уявай вобраза твайго.**
*1996*

●

*Светлай памяці Уладзіміра КАЛЕСНІКА*

**Зося Міхайлаўна —**
**ваша паплечніца —**
**хутка сівець пачала.**
**Што, каб яшчэ ды не клопаты вечныя?**
**Самаахвярна шчыруе, сардэчная,**
**працалюбівая, быццам пчала.**

**Ўсё на высокай любові трымаецца;**
**вернасць — адданай любові сястра,**
**з вамі ўсё ваша любімая раіцца;**
**век ёй тужыць, стаўшы белаю чаіцай,**
**покуль не прыйдзе СУСТРЭЧЫ пара.**
*Снежань 1995*

●

**Кахання прагну, Валадар.**
**Ды на Зямлі яго не просяць, —**
**яно, бясспрэчна, неба дар,**
**і на яго святы алтар**
**сябе ахвярныя прыносяць.**

**Калі яго ў цябе прашу,**
**я да ахвярнасці гатовы.**
**Перш чым забраць маю душу,**
**узбагаці яе...**
**Грашу,**
**калі мой грэх — малітвы словы.**
*1996*

●

**"Жаданы, любы, дарагі!.." —**
**слоў крышталёвых я не чую;**
**адзін і днюю і начую**
**у доме даўняе тугі.**

**За што, не ўцямлю аніяк,**
**навошта плата мне такая —**
**яна мне самая цяжкая!**
**Дзе ты, каханая мая?!**

**Ва ўсім ты: ў песнях салаўя,**
**у водары, у красках мая...**
**У снах цябе я абнімаю,**
**цябе ўсё прадчуваю я.**

**Стань чарай шчасця — не тугі.**
**О, развініся мне бутонам!**
**Жыву я слоў крыштальным звонам:**
**"Жаданы, любы, дарагі!.."**
*1996*

### У ЗІМОВЫМ ЛЕСЕ

**Снягі, срабрыстыя снягі...**
**Паслаў іх люты і развесіў.**
**Нібыта сонныя стагі,**
**яліны пышныя**
**у лесе.**

**Зачаравала бор зіма —**
**завеямі заваражыла.**
**І нават цішыня сама**
**дыханне ў лесе затаіла.**
*1996*

---

## Проза

ЦІХЕНЬКА ціўкнула кураня — апошняе з усяго вывадку, што ацалела-ўратавалася ад розных дробных хатніх драпежнікаў і перадужала голад — і Мітук, торгнуўшыся, нібы цягнік перад рухам, усім сваім закляклым целам, прачнуўся.

— Ё-маё, дык ужо ж!.. — Ён працёр непаслухмяным кулаком вочы, зірнуў на мурзатыя ходзікі, па якіх ходзяць-топчуцца мухі і не выціраюць ногі. — Ё-маё! Кыш, кыш з дарогі, сцерва! Растапчу-у.

Куранятка пырхнула пад трохногі зэдлік, на якім стаяў літровы слоік з вадой, гаспадар прагрукаў побач кірзавымі ботамі і, перш чым піхнуць дзверы, затрымаў, як бы вінаваты і поўны спачування, позірк на куранятку:

— Накармлю сёння да адвалу. Круп куплю. Проса. Чуеш? Пацярпі. Багата цярпела — менш засталося. Вырасцеш — яйкамі аддасі. Ясна, шмакадзяўка? А цяпер сядзі тут і не вытыркайся, а то якая падла сажрэ. Чакай. Сёння мне пенсію прывязуць на пошту. Багата грошай будзе. Я сёння свята ім устрою. Яны запомняць Мітука. Здохну, а слава доўга цягнуцца будзе: во нам Мітук свята даў! І аблізнуцца. А то як што, языкамі мянцяць: "Алкаш!" Я сам знаю, не трэба напамінаць. Сядзі мне тут і не ціўкай. Пабег я. За грашыма.

Мітук жыў на Крывой Бярозе, самай аддаленай вуліцы, да пошты было крыху мо за кіламетр, і ён шугануў напрасткі — цераз калгаснае жыта, якое сцябала па халявах ботаў, заміналa, але ж нельга спазніцца: начэпіць Люба замок на дзверы пошты, тады хоць кусай яго.

Вось так Мітук некалі бегаў у школу — што расло на гэтай дзялянцы калгаснага поля, па тым і тарыў сцежку. Так-сяк адмучыў ён сямігодку, а тады ляжаў на бугарках за школай з хлопцамі ад няма чаго рабіць і прыхінуў твар сухой і жорсткай, як фольга, газецінай, — каб не так моцна пякло. Марылі хлопцы, рашалі, у які белы свет падацца. А на той газеціне акурат была абвестка, што ў Горлаўку патрабуюцца дужыя хлопцы для работы ў шахце. Зацікавіла. Прачытаў яшчэ раз, перадаў газету сябрукам. Усхапіліся з зямлі, сабраліся похапкам, не зважаючы на пярэчанні бацькоў, як толькі і бачылі іх — паехалі! Здабывалі вугалёк. Потым неяк непрыкметна Мітук застаўся ў Горлаўцы адзін — паспыталі таго хлеба хлопцы-землякі, ды і далі цягу: грошы грашыма, іх усе не заграбеш, але навісла небяспека — спіцца можна, як двойчы два. Кожны дзень, пасля пад'ёму на паверхню, завядзёнка была "паласкаць" горла ад пылу віном і гарэлкай. Яны паехалі, а Мітук паласкаў горла яшчэ гадоў пятнаццаць, здаровы быў — надоўга, як бачна, хапіла, толькі рукі пачалі выдаваць — трымцелі, не слухаліся. Значных змен якіх-небудзь за той час у асабістым жыцці не адбылося. Сям'ёй не абзавёўся, набыў тое-сёе з апранашкі, далі, праўда, асобную кватэрку-аднапакаёўку. Парадзела і ў роце зубоў — каб рамантаваць іх, трэба не піць, а калі ж для іх, зубоў, тут выкраіш час? Не выпадала. Ён і вярнуўся ў Іскань без зубоў, але ў добрым настроі — усмешка, як усё роўна намаляваная, заўсёды вісела на ягоным маршчыністым, з праваленымі ўсярэдзіне шчакамі, твары. Прынялі землякі так, як і прымаюць павяртанцаў: вілы ў рукі — і на гной. У каляіну калгасную ступіў ён без разгону, цвёрда. Характар у Мітука добры, кожнага прывеціць, кожнаму паспачувае, за чарку дык і ў блін расплешчацца, а зробіць, што папросяць вяскоўцы. Безадказны Мітук. І ў выпіўцы таксама. Піў, як і рабіў, да пераможнага канца, таму брыгадзір Шалабод і вастрыў нярэдка на яго зуб. Як жа — прагульшчык. Паляпаўшы ў шыбу, Шалабод звычайна прыстаўляў да пераносіцы картузікам руку, угледаўся, ці не відаць дзе Мітука, а Мітук лёгкі на пад'ём, усім сваім задрыпаным тварам тырчыць перад акном, трэ вочы:

— Чаго?

Шалабод заводзіўся маланкава, сыпаў соль на рану — у Мітука ж з учарашняга галава, як цэбар:

— Спіш? Дрыхнеш, абібок? Так? Значыць, запомні...

— Грамчэй гавары ці заходзь у хату, але ў мяне выпіць няма, — казаў Мітук, дыхаў на шыбу, на якой заставаліся кроплі, і брыгадзір ківаў на іх — маўляў, са шкла можна сашкрэбсці і апахмяліцца.

— Слухай тут. Значыць, так. Каня больш не атрымаеш...

— А на храна ён мне! Хопіць, што адбойны малаток пацягаў!

— На гарбу дровы насіць будзеш! На гарбу!

— Ды на зіму я прыб'юся да якой Мар'і!

— Як ты калгасу, так і ён табе! Соткі абрэжам да самых вокнаў!

— Не маеш права! Ты ў шахце быў?.. Цябе, цяцеру такую, там бы задушылі!..

— Ён яшчэ і агрызаецца! — ніякавеў брыгадзір, вадзіў круглай, як гарбуз, галавой па баках, стараючыся ўбачыць каго з людзей, каб і тыя маглі паслухаць, якая ў яго адбываецца трудная размова з аболтусам і чаго гэта каштуе ягонаму здароўю. — Шкада, шкада — нікога няма паблізу. Хай бы паслухалі, як і куды ты выканаўчую ўладу пасылаеш.

— Усё ў цябе? — талопіў вочы Мітук,

Васіль ТКАЧОЎ

# ДЗЕНЬ ШАХЦЁРА

АПАВЯДАННЕ

нахабна глядзеў прама ў твар Шалабоду.

— Ідзі на работу-у! Кідай усё — і давай!.. З віламі сёння! Шуруй! Прыедуць забіраць лячыцца ад п'янкі — я на цябе першага нацкую. А як ты думаў! Хаханькі табе!

— Ды пайшоў ты!.. — і Мітук насоўваў на акно фіранку, чорную, як камбінезон у трактарыста, плюхаўся на ложак і заплюскваў вочы: спаць, спаць, спаць!

А брыгадзір, заносячы тлустае цела на калёсы, бурчэў:

— Гэта ж трэба!.. Здаровы, як бык, а мінімуму гадавога і блізка не вырабляе, гад. І сораму ж няма ў чалавека. Прапіў ўвесь сорам. Вернецца з водпуску ўчастковы, ён яго зафугуе ў ЛТП. Майму цярпенню прыйшоў канец. Хопіць. Баста. Такія людзі слоў не разумеюць. А калі яшчэ наконт Веры пацвердзіцца, то галаву адсяку!..

Звычайна Мітук, калі брыгадзір палохаў яго затачэннем у ЛТП на прымусовае лячэнне, падціскаў хвост, прыкладаў руку да сэрца, начапляў на твар кіслую ўсмешку і кляўся заўтра ж, з першымі пеўнямі, быць там, куды загадае. ЛТП ён баяўся. Калі ж зачынены там больш месяца сядзіш, як у турме, а пад прымусам якое ж лячэнне? Пшык. Адно — хочацца помсціць таму, хто запёр туды. Больш таго, кругом, лічы, адны наркаманы, і каб не страціць сваю кліентуру, падазроныя асобы носяць ім прама на "лячэнне" розныя каноплі і макі — ухітраюцца перадаць. Да гэтага прывыклі, пра гэта ўсе ведаюць, але ніхто нічога не робіць, усе закрываюць вочы. Спрабавалі пачаставаць і Мітука. І як адкруціўся — не зразумее сёння і сам. Але ганарыцца, ставіць сабе ў заслугу, што не спакусіўся.

Сваё вяртанне адтуль Мітук адзначыў тады даволі шырока — набраўся ў мясцовай краме і доўга шастаў па вуліцы, чапляўся да людзей, бо хацелася яму пахваліцца, як дужа добра яго вылечылі брыгадзір і ўчастковы ад гарэлкі!

Яшчэ калі ён жыў у Горлаўцы, да Мітука прыехаў малодшы брат Колька — вырваўся з вёскі без дакументаў, тады пашпарт атрымаць мог толькі вундэркінд якога-небудзь начальніка. Вельмі хацелася і яму, Кольку, паспытаць шахцёрскага хлеба: хваліўся ж Мітук, што дужа смачны. Дапамог Кольку старэйшы брат уладкавацца на шахту, усімі праўдамі і няпраўдамі ўпёр яго туды, хоць і павалтузіўся, канешне ж, багата, пакуль дамогся: загад — не браць. Сам Хрушчоў падпісаў. Але Мітук да таго часу прывык глыбока браць — і ніякая парода, нават самая цвёрдая, не магла перад ім утрываць: Колька пачаў здабываць вугалёк у адной брыгадзе з ім, а паколькі Мітук штодня добра закладваў за каўнер, то ён збіраў торбачку для дваіх, сам яе і нёс. Мітук толькі пры сустрэчы ківаў:

— Брат. Колька. Мяньшой. Не п'е — можна не прадлагаць.

Калі мужчыны і траха старэйшыя за Кольку хлопцы выпівалі, ён, на здзіўленне тых, толькі грыз што-небудзь з закусі і слухаў, аб чым яны гамоняць. Іншы раз хто-небудзь з выпівох кідаў Кольку: "Не пераводзь закуску". Але так, жартам.

Неўзабаве Колька адбіўся ад Мітука — стаў на ногі, агледзеўся па баках і зразумеў, што, калі не знікне з поля зроку Мітука, той калі-небудзь усё ж дакане яго сваім: "Цяпні!" Колька ўсякі раз аднекваўся, Мітук, махнуўшы рукой і крэкнуўшы, цягнуў адзін, набіраўся як сабака блох і проста з-за стала чыкільгаў, змятаючы ўсё, што сустракалася на шляху, на ложак, хроп. Спаў заўсёды ў тым, у чым і хадзіў.

Колька ж выбіўся ў начальнікі — закончыў вячэрні інстытут, памаленьку-патрохі папоўз угару, і неўзабаве сядзеў у асобным кабінеце. А калі праганялі з шахты Мітука, развёў рукамі:

— Прабач, братан. Нічым дапамагчы не магу. Толькі магу сказаць, што табе трэба палячыцца ад п'янкі. Гэта твой апошні шанц. Думай.

— Ды пайшоў ты!.. — сцяўшыся, моцна сказаў Мітук, згроб свае транты і ўзяў білет да Быхава.

Але каб не Колька, і сёння б яго даймаў брыгадзір Шалабод: "Давай мінімум, гультай!" Прыехаў той неяк у адпачынак, сустрэў Мітука на возе з віламі, дома за вячэрай, бы між іншым, пацікавіўся: "Дык табе што, пенсіі не хапае, што ў калгас на працу ходзіш?" "Якой... такой... пенсіі?!" — "Дык ты ж на шахце амаль дваццаць гадоў адпахаў... пад зямлёй... у забоі... А трэба — пятнаццаць!" "Ё-маё! Ё-м... маё! Ну, пачакай, Шалабод! Мінімум яму, ваўкалаку, давай, калі я даўно, аказваецца, на пенсіі! Спасіба, брат, што сказаў, а то я б да шасцідзесяці і петаўся... Спасіба... Што, кажаш, я ўжо пяць гадоў як законны пенсіянер?" — "Акурат так". — "Ё-маё!.."

І вось Мітук шыбуе на пошту атрымліваць пенсію — за апошнія, кажуць, шэсць месяцаў можна. То і добра, хоць так. Тыя грошы ўжо за чатыры гады з хвосцікам хай будуць дзяржаве. І ёй трэба. Мітуку хопіць. Мітук і так шчаслівы — на сёмым небе. Гэта ж столькі грошай! Калі яшчэ раней ён трымаў у руках пук паперак, без якіх ты... ну хто ты? Мусіць, тэлеграфны слуп, якому нічога не трэба. А яму, Мітуку, ой як трэба! Хто ведае, як баліць раніцай макацёр пасля гарэлкі, — той зразумее. А пазычыць, каб палячыцца, — дулю хто пазычыць яму. Галаву адвернуць, скрывяцца: "Няма." Рэпутацыя такая. Эх вы, людзі! А цяпер што скажаце, калі перад вамі не абы-які пенсіянер там, а шахцёрскі? Што, цікава, Мітуку скажаце?

Здалёк яшчэ Мітук запрыкмеціў каля пошты крыты грузавік, і сэрца ёкнула: а што калі не прывезлі грошы? Калі не хапіла для яго? Усё можа быць — цяпер час такі ненадзейны. Ён жа тады, Мітук, памрэ — наважыўся сёння даць свята для землякоў, якія чарку паважаюць, навастрыўся і сам добранька горла прамачыць, павяртаць назад, адкладваць хоць на адзін дзень такое мерапрыемства — смерці варта.

Фу-у ты, вось і пошта. Каля ганка было адзінока, паштарская машына ад'ехала і Мітук, папляваўшы ўбок, пацягнуў на сябе дзверы так, нібы яны былі на той свет. Але калі пераступіў парог, павесялеў.

— Прывет-салют, Любаша! — павітаўся, шырока ўсміхнуўся бяззубым ротам, але загадчыца аддзялення ніяк не адрэагавала — разбірала сабе скрынкі і розныя скруткі. — Прывет, кажу!

— Прывет, — нехаця адказала Люба.

— Ну... і як там? Кхе-эк-хе.

— Прывязлі. Поўны мех грошай табе. Прывязлі.

Каб хто бачыў, як ад радасці падскочыў гэты высокі, прыгорблены, худы, ссохлы, як леташняя трэска, чалавек, — дзіву даўся б: ці ж можна так радавацца старому мужчыне, не дзіця ж? А ён, бачце, крычыць, падскокваючы:

— Ура-а-а! Ура-а-а! Спасіба, шахта! Спасіба-а-а-а! Ты не дала мне памерці-і-і-і!

— Сціхні! — гыркнула Люба.

— Дай і цябе пацалую, золатка! Дай! Замест шахты! — Мітук прадзёрся скрозь гару скрынак і скруткаў, ашчаперыў загадчыцу і ўжо наважыўся чмокнуць тую ў рабую шчаку, калі дзверы адчыніліся і ў пакой ступіў муж Любы — Пецька, вясковы электрык.

Пецька глянуў на Мітука бычыным вокам:

— Адставіць!

— Ах, не атрымалася, — адразу ж здаўся Мітук. — Хацеў, чэсна скажу табе, Пятро, радасць сваю на тваёй жонцы выліць...

— Вылівай сваю радасць на якой другой бабе, — строга сказаў Пецька і замахнуўся на Мітука, але жонка цыкнула на таго, і кулак павіс, дзе і вісеў — каля кішэні.

Пецька, відаць, і сам успомніў, што Мітук сёння павінен атрымаць мех грошай, таму сказаў, стараючыся ўсміхнуцца:

— Ды я так... Што ж я, па-сапраўднаму? Не хапала дзяцініцца. Ці нам мала, так, Міця?

— Ага. І я ж кажу: радасць. Давай, давай, Любаша, варушыся. Газеты твае пачакаюць. Я ж вось пяць гадоў чакаў... ці сколькі. Мне ў першую чаргу. Яе я даўно заняў. Пагодзь, Пеця, нікуды не ідзі. Зараз мы зварганім.

— Я яму пап'ю! Я яму!.. Пакажу як піць!.. — завялася Люба. — Пасінееў, як падасінавік. І цябе, Мітук, папярэджваю: пачастуеш — атрымаеш у мяне пенсію!..

— Ды не буду, не буду, — не на жарт спалохаўся Мітук. — Што я... не разумею? Гэта ж навошта мне браць грэх? Х-ха-ха-а! Сказала: не паі — не буду. Пераб'ецца. Пятро, ты не крыўдуй, — Мітук павярнуўся да яго, падміргнуў — каб дарэмна не хваляваўся. — Такое, брат, дзела. Не маю права. Твая жонка для мяне вялікі начальнік, не дасць грошы, што тады? Не, не. Пяць гадочкаў... ці колькі там... чакаў... І вось!..

Наступіла ўрачыстая хвіліна. Люба вываліла на стол з меха, нібы бульбу — падняўшы той за два рагі — процьму грошай.

— І гэта ўсе... мае? — аслупянеў, папярхнуўся Мітук, гледзячы на столік, дзе ляжала горка перацііснутых шпагатам і пазначаных пячаткамі пачкаў. — Гэта ўсё... мне?

— А каму ж! — спакойна сказала Люба. — Хіба ж ёсць яшчэ ў нас які дурань, якому даўно пара на пенсію, а ён праспацца не можа, белага свету з-за гарэлкі не бачыць?

— Не, няма, — пагадзіўся Мітук, падобраму шчыра ўсміхнуўся. — Але, Любка, заўваж: так я б не змог сабраць грошай, калі б даўно пенсію аформіў, каб дзень шахцёра для землякоў саарганізаваць. Кеміш?

— Калі так толькі.

— Шпарчэй, золатка. шпарчэй лічы.

— А што гэта людзі кажуць, бытта Верка брыгадзірава колькі разоў да цябе бегала? — хаваючы твар, нясмела мовіла Люба. — Ці няма ім чаго рабіць, людзям?

— Менш слухай. Абідзяць во толькі добрую бабу. Лічы, лічы, а то ў роце засмягла... к-хы.

— Па такому выпадку купіш мне каробку цукерак, — папляваўшы на пальцы, кінула кароткі позірк на Мітука Люба, а тады затрымала яго на сваім мужыку. — А ты ідзі, не мылься. Пачуў, паразіт, пах грошай. Кот шкодны!

— Ды ладна табе, махнуў рукой на жонку Пецька. — Ніхто рот на чужое не разяўляе. Адпускай чалавека хутчэй.

— Я табе, Любаша, не толькі самых лепшых цукерак куплю, якія ёсць у нашай краме, — заківаў лахматай галавой Мітук, — а і віна прынясу. У прыдачу. Прынесці?

— Прынясі, — ціха, але з задавальненнем пагадзілася загадчыца пошты.

— Будзе! Будзе! Шахцёры, сама разумееш, слоў на вецер не кідаюць. А... гэта... Пятру дазволіш капнуць грамульку, каб потым у нас з табой эксцэсаў розных не было? Як? — Мітук нецярпліва глядзеў на Любу, якая займалася грашыма, і чакаў, што яна скажа.

— Толькі пры мне, — нарэшце дазволіла.

— Пры табе дык пры табе, — засвяціўся твар у Мітука, ён глянуў на Пецьку, які таксама ўсміхаўся і лізаў сінім языком засмяглыя губы.

Мітук распіхаў грошы па кішэнях, частку засунуў пад сарочку, а што не ўлезла, трымаў у руцэ.

— Чакайце. Я зараз!

Крама і пошта побач, таму Мітук абярнуўся хутка — прынёс, як і абяцаў, загадчыцы каробку цукерак і вялікую пляшку віна, якую тут жа адкаркаваў, забулькаваў у пададзеную Пецькам шклянку.

— З цябе, Люба, і пачнём, — кіўнуў ён на поўную шклянку.

Люба зморшчылася:

— Вы што, падурнелі? Што я, столькі вып'ю?

— Пі, дзеўка, колькі хочаш, — адчуў сябе нават крыху ніякавата Мітук. — Твая справа. А цукеркі дамоў нясі. Дзеткам. Карапузікам сваім. А нам закусіць і так добра будзе. Праўда, Пецька?

— А то ж! — крэкнуў Пецька і кульнуў пітво ў рот. — Фу-у! А ёй трохі. Тады хварэе на галаву.

— Ага! — Мітук ліну ў у шклянку, падаў Любе.

Люба моўчкі выпіла.

— А я, калі дазволіце, так, — і Мітук, задраўшы дном угару бутэльку, забулькаў у рот, бы ў нейкае бяздонне, і было відаць, як яго твар святлеў, дабрэў, распрамляўся ад лагоды.

— Ты б, Міця, частку грошай у мяне пакінуў, а то згубіш, калі нап'ешся, — параіла Мітуку Люба. — Глядзі. Маё дзела прапанаваць.

— Праўду кажа, — падаў голас Пецька.

Мітук задумаўся, паглядзеў на грошы, што трымаў у руцэ, паляпаў па кішэнях, махнуў:

— Схаваю дома так, што ніякая падла не знойдзе.

— Ён-та не валяецца, — зноў сказаў Пецька. — Будзе носам чарціць па зямлі, але ідзе.

— Хай сам глядзіць.

У краме Мітук быў на першым плане. Частаваў кожнага, хто заглядваў туды:

— За дзень шахцёра! За мой дзень, Міхеевіч! Цётка Лёкса, вазьмі грам шахцёрскага зелля! Не пі дома — тут выпі! Выпі і ты, дзядзька Ахрэм! Не п'е толькі хворы! Частуйцеся-я-я!

Людзі, выпіўшы шклянку, весялелі і з крамы не спяшаліся, стаялі купкамі, гаманілі. Пра палітыку, пра новага старшыню калгаса, а больш хвалілі Мітука: бач ты, ён, аказваецца, анціхрыст, пенсіянер па шахце, а ўсе толькі кпілі з яго, п'яніца ды п'яніца. Які п'яніца столькі грошай заробіць? Дзе? А Мітук наш — чалавек заслужаны, калі такую добрую пенсію і так рана яму далі. Не абы-хто Мітук. Ведаць трэба...

Адкуль узяўся гармонік у краме, мала хто прыпомніць, але з ім стала яшчэ весялей — Мітук скакаў з рознымі выкрутасамі, падскокваў і выбрыкваў, зацягваў у танец кожнага, хто трапляўся пад руку. Ды і самі вяскоўцы, падагрэтыя ягоным частаваннем, гэцалі няблага.

— Танцуй, братва-а! — чулася Мітукова. — Сёння дзень шахцёра! Сёння я выдаю нагара! Я! Мітук! Што там не дакідаў, дакідаю тутака-а! Га? Смялей жа, смялей шавяліце батонамі, бабы! Мужыкі, а вы чаго загаруніліся? Ці мала выпілі? То давайце дабавім! Ёсць грошы! Капаў глыбока! Не думайце! Ёсць, маць іх за нагу!..

Мітук стомлена тупаў да прылаўка, дзе асалавелымі вачыма лыпаў на яго прадавец Зміцер, бязногі і пакорлівы, кідаў грошы на прылавак:

— Дзве. І цукерак зваж. Адкрывай і кансерву.

— Зразумеў, зразумеў, Міцька. І мне яшчэ капнеш?

— І табе. Гуляй, дзярэўня-я!

Калі пачало вечарэць, Мітук паклыпаў, хістаючыся, да хаты Шалабода. Ён толькі цяпер успомніў, што той не быў на свяце, і палічыў гэта за непарадак, амаль як за абразу. Брама ў брыгадзіра была ўжо на зашчапцы. Мітук загрукаў кулаком.

— Хто там? — пачуў халодны голас Шалабода.

— Свае, адчыняй!

— Што табе трэба? — незадаволена прабурчэў брыгадзір. — Чаго бryндаеш па начах? Ідзі праспіся! Пя'яны ж!

— А каб цвярозы быў, я б да цябе і не пайшоў! — сказаў Мітук. — Пад дулам не пайшоў бы! Ты хамло! Я табе зараз мінімум аддам, прынёс. Прынёс табе, Шалабод, мінімум. Дык адчыніш ці не? Адчыняй, сказаў! Ну-у! Дзе тут які адбойны малаток?

З-за брамы брыгадзір пагрозліва гаварыў няпрошанаму госцю:

— Па-харошаму, Міця, ідзі спаць. Будзеш ерыпеніцца, паклічу ўчастковага.

— Каго-каго? — хехекнуў і перапытаў Мітук. — Участковага? Гэта таго недакурка? Гэта таго аблезлага? Ды я на шахце пенсію ўжо зарабляў, а яго і ў праекце не было. І ты мяне тым недадзелкам палохаеш?..

— Ідзі, Міця, ідзі дахаты.

— Пайшоў ты! Дык што, мінімум мой не возьмеш? Адчыняй.Станаві на стол закуску і мы мой мінімум апрыходуем.

На здзіўленне брама прарыпела, і Шалабод дыхнуў у твар Мітуку цеплынёй:

— Праходзь ужо, ад цябе не адвяжашся.

Мітук набухторыў брыгадзіру поўную шклянку — да беражкоў, дыхні — расплешчацца, а сабе трошкі, бо ўжо, відаць, і так не ведаў, што рабіў.

— Жлукці мой мінімум! — загадаў Мітук.

Выпілі. Закурылі. Шалабод даканаў бутэльку, можна сказаць, адзін, сядзеў на зэдліку, дакараў сябе, што абяцаў Мітуку абрэзаць пляц і не даць каня.

— Хто ж знаў, ета самае, Міцька! Хто ж ведаў! — казаў ён, хітаючы лысай галавой. — А ты... вось хто ты. Мяне нат абскакаў.

— Абскакаў. І дзелаць нечага. А мог бы табе... а як ты думаў, міраед... і мыцельнік нацерці сёння — за тое, што дакучаў сваім мінімумам і страшыў ЛТП. Ды не буду. Не хачу марацца. Прашчаю.

— Хто ж ведаў-знаў? — адчуваў сябе мулка на зэдліку Шалабод, ёрзаў. — А і добра, што ўсё так кончылася. Цяпер у мяне да цябе прэтэнзіяў аніякіх.

— Яшчэ б!

— Ты вось толькі, Мітук, да Веры маёй больш не чапляйся. Хворая яна. У бальніцу зноў адвёз.

— Перадай прывет.

— Не чапляйся, Мітук! Пакінь нас у спакоі! У нас жа ўжо ўнукі.

Мітук устаў, узяў на стале кавалак хлеба, запіхнуў у кішэню:

— Куранёнку. Усіх накарміў і напаіў, а пра яго ледзь не забыўся.

— Дык ты чуеш, Мітук? Ці не? Наконт маёй жонкі ты чуеш? —Шалабод пацягнуў яго за рукаў.

— Паслухай, брыгадзір! — хістаючыся, Мітук паківаў непаслухмяным пальцам, ікнуў. — Ёй падабаецца, табе не... Ды разбярыцеся вы ў рэшце рэшт у сваёй сям'і. Самі. З вока на вока. Што за сям'я ў вас? Быццам бы інцялягентная. Ёй, значыць, падабаецца, што тады-сяды прыцісне Мітук, а яму, бачце вы, не. Разбярыцеся. А я — пайшоў. Больш мяне будзіць, Шалабод, не маеш права такога. Шахцёрскі пенсіянер я...

На вуліцы быў цёплы зорны вечар, недзе граў гармонік. Больш Мітук нічога не помніць — быццам праваліўся некуды. Прачнуўся ён назаўтра раніцай і доўга не мог зразумець, дзе знаходзіцца. На лбе намацаў гузак. Цікаў гадзіннік. Куранёнак латашыў хлеб. А грошай не было. Нават дробязі. Мітук сцяўся ад болю ў галаве і целе, паднёс да рота слоік з вадой і піў доўга, не адчуваючы ніякага смаку.

# ПРА МНОГАЕ СКРЫПКА РАСКАЖА...

Нагодай для напісання гэтых нататак сталася падзея неардынарная — канцэрт-манаграфія са скрыпічных твораў Генрыха Вагнера.

Скрыпічная музыка ўяўляе сабою сферу, нязменна прыцягальную для нашага прызнанага майстра; яна — галіна яго нястомнай і пільнай кампазітарскай увагі. Будучы аўтарам чатырох сімфоній, манументальных паэм, вядомых твораў для музычнага тэатра ("Падстаўная нявеста", "Свята і цені", "Пасля балю", "Сцяжынаю жыцця"), мноства харавых партытур, Г. Вагнер пастаянна звяртаецца да стварэння скрыпічных сольных і ансамблевых опусаў, колькасць напісанага ім у гэтай сферы дасягае сотні.

Панарама скрыпічнай творчасці Г. Вагнера шырыцца ад дзіцячых п'ес-мініяцюр (зборнік "Прыступкі" для самых юных выканаўцаў і "Дзіцячы альбом") да буйных твораў канцэртнага плана, транскрыпцый з балетаў і, нарэшце, маштабных кампазіцый — такіх, як "Фантазія для скрыпкі з аркестрам" і Скрыпічны канцэрт (прэм'ера адбылася ў 1985 г., салістка — Вольга Пархоменка).

Ягоная прыхільнасць да сферы скрыпічнага мастацтва невыпадковая: першыя музычныя ўражанні Г. Вагнера былі звязаны з ігрой на скрыпцы яго бацькі, з "сімфоніяй" музычнага перадваеннага побыту ў родным Жырардаве, невялікім гарадку паблізу Варшавы; з мастацтвам народных музыкантаў, з хатнім граннем, працай тапёрам у кінатэатры... Усё гэта паўплывала на кола творчых інтарэсаў, вызначыла адметныя рысы ўласнага мастацтва.

Ці не з ранніх гадоў выявілася нязменная прыхільнасць майстра да фальклору? Успомнім тонка агранёныя, прыгожыя п'есы ў народным духу — "Аберэк" з яго раскаваный стыхіяй танцавальнасці або "Імправізацыю", дзе гучанне скрыпкі нагадвае народныя інструментальныя найгрышы.

Для Г. Вагнера не існуе ў мастацтве жанраў "высокіх" і "нізкіх": вось чаму ў сваёй нядаўна закончанай Чацвёртай сімфоніі "Пра Беларусь" (на вершы Канстанцыі Буйло) ён, поруч са складам вялікага сімфанічнага аркестра, выкарыстаў народны хор як яркую, незвычайную тэмбравую фарбу.

Генрых Вагнер заўсёды адчувае музычны тэмбр як адухоўленую матэрыю, персаніфікуючы "голас" кожнага інструмента. Зусім паразнаму гучыць тэмбр скрыпкі ў п'есе "Імправізацыя" з яе наіўнай немудрагелістасцю мелодыі і натуральнай прыгажосцю арнаментыкі, або — у "Фантазіі на іспанскія тэмы" з імпульсіўнымі, вострымі рытмамі і экзатычнымі рэзкімі інтанацыямі. Характарнасць скрыпічнага тэмбру па-рознаму ўспрымаецца ў "Старадаўнім танцы" з яго класіцысцкай ураўнаважанасцю або ў "Оргіі фанатыкаў" з балета "Свята і цені" з яе напружанай плыннію дысанансаў і гранічна экспрэсіўным гучаннем. Таму галоўная і найбольш складаная задача інтэрпрэтатараў музыкі Г. Вагнера — выявіць у кожным з твораў характарнасць, карцінnасць, шматаблічча вобразаў, акцэнтаваць спецыфіку тэмбравага гучання інструмента.

Успамінаю, як падчас падрыхтоўкі да беларускага конкурсу скрыпачоў мы са студэнтам (пазней лаўрэатам конкурсу) Робертам Смалінскім рэпеціравалі "Фантазію на іспанскія тэмы" Г. Вагнера. Нам пашчасціла атрымаць згоду аўтара на ўдзел у рэпетыцыі. Генрых Матусавіч сеў за раяль і гранічна выразна, рэльефна высвятліўшы асаблівы нацыянальны каларыт п'есы, бліскуча сыграў яе са студэнтам, магчыма, нават крыху гіпербалізаваўшы для большай наглядасці выяўленчыя сродкі выканання. Які выдатны, уражлівы ўрок інтэрпрэтацыі сваёй музыкі даў нам майстар у той дзень!

Здарылася так, што канцэрт, які адбыўся ў Вялікай зале Акадэміі музыкі і пра які ідзе гаворка, супаў па часе з горкай падзеяй у нашым музычным жыцці: не стала выдатнага скрыпача Льва Гарэліка. Ён быў, па сутнасці, першым выканаўцам усіх скрыпічных твораў Генрыха Вагнера (як і музыкі іншых беларускіх кампазітараў) і ўжо рыхтаваўся запісаць на радыё нядаўна закончаную кампазітарам Санату для скрыпкі і фартэпіяна і "Паэму". На жаль, зрабіць гэта яму не давялося... Супрацоўніцтва Генрыха Вагнера з Львом Гарэлікам можна параўнаць з прыкладам мастакоўскай садружнасці-сатворчасці вялікіх скрыпачоў з творцамі музыкі (Фелікс Мендэльсон — Фердынанд Давід, Іяганас Брамс — Ёзаф Іяхім, Бэла Бартак — Ёжаф Сігеці, Дзмітрый Шастаковіч — Давід Ойстрах). Льву Гарэліку, як нікто ўлюбёнаму ў беларускую музыку, больш за іншых удавалася выявіць тонкую эмацыянальнасць і характэрную маляўнічасць музыкі Г. Вагнера.

Якім высокім натхняльным прыкладам выканання новай музыкі павінна паслужыць мастацтва Першай Скрыпкі Беларусі — для новай генерацыі скрыпачоў!

Радуе, што моладзь беларускай скрыпічнай школы ўжо са студэнцкіх гадоў далучаецца да выканання нашай нацыянальнай музыкі. У канцэрце з твораў Г. Вагнера выступілі студэнты Надзея Артуганава, Дзіяна Збужыньская (клас прафесара В. Зяленіна), Ксенія Гераўкер, Аляксандр Афанасьеў (клас народнага артыста Беларусі Л. Гарэліка), Тацццяна Лявіцкая, Аляксандр Яканюк (клас прафесара А. Япольскага), Настасся Сычова (клас старшага выкладчыка Л. Умновай), Кацярына Малочкава (клас прафесара В. Чарныша), асістэнт-стажор Алег Подаў (клас старшага выкладчыка Р. Крывель). Была прадстаўлена праграма з твораў досыць разнапланавых па настроях, вобразах, часе стварэння і ступені складанасці.

Спачатку прагучала другая, павольная частка Скрыпічнага канцэрта з яе няспешнай апавядальнасцю і ўнутранай эмацыянальнай стрыманасцю. Стыхія народнага меласу раскрылася ў "Варыяцыях на беларускую тэму" і "Аберэку". Неакласіцысцкія рысы паўсталі ў "Старадаўнім танцы", "Гавоце", "Рондa". Розныя грані скерцознасці заззялі ў трох "Капрычыо" і "Гумарэсцы". Жывапісны яркасцю, павышаным эмацыянальным тонусам вылучалася "Оргія фанатыкаў" з балета "Свята і цені", а "Танга" з балета "Падстаўная нявеста" паланіла сапраўдным шармам.

Пачаўшыся са слоў памяці Льва Гарэліка (выступіў загадчык кафедры скрыпкі прафесар А. Япольскі), канцэрт закончыўся прысвечаннай гэтаму цудоўнаму музыканту і чалавеку натхнёнай "Паэмай" Г. Вагнера.

Кожны год філарманічныя афішы анансуюць прэм'еры твораў Генрыха Вагнера, нястомнага мастака, з-пад пяра якога выходзяць усё новыя і новыя творы. Будзем спадзявацца, што з'явіцца і нямала новай, арыгінальнай музыкі для скрыпкі — любімага інструмента Майстра.

**Ігар ВЯДЗЕНІН,**
**кандыдат мастацтвазнаўства,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі**



*На здымку: народны артыст Беларусі Генрых ВАГНЕР сярод юных выканаўцаў.*

Фота А. ЕЛІСЕЕВА

# НА ПАЧАТКУ ДАРОГІ...

***Аматары музыкі Гродна і Ваўкавыска пазнаёміліся з ігрой маладой піяністкі Марыны Белашук. Яе выканаўчай манеры ўласцівы эмацыянальная адкрытасць, парывістасць. Яна валодае цудоўнай тэхнікай і бездакорным густам. У яе — добрая школа. Адным словам, мы пачулі музыканта вельмі высокага прафесійнага ўзроўню.***

***Марына нарадзілася ў Гродне. Вучылася ў Гродзенскай музычнай школе. Потым паехала ў Маскву, дзе прадоўжыла адукацыю ў музычным вучылішчы і ў Акадэміі музыкі імя Гнесіных, цяпер удасканальваецца ў асістэнтуры.***

***Сустрэча з таленавітым чалавекам — гэта амаль заўсёды свята. Але сустрэча з сур'ёзным і ўдумлівым мастаком — гэта ўжо нагода для размовы. Аднак я быў крыху расчараваны нешматслоўнасцю піяністкі. Пэўна ж, у сапраўдных прафесіяналаў свая логіка: яны аддаюць перавагу стварэнню мастацтва, а не гаворцы пра мастацтва.***

**— Марына, ці не ўспомніце сваю першую сустрэчу з музыкай — гэтую вызначальную для вашага жыцця падзею?**

— Вельмі цяжка адказаць. Колькі сябе помню, заўсёды любіла музыку, хоць, вядома, розныя настроі бывалі...

**— Многія гады аддадзены вучобе...**

— Думаю, што мая ігра ўключае цэлы шэраг кампанентаў, унесеных маімі педагогамі. Я адчуваю гарачую ўдзячнасць да ўсіх, хто са мной працаваў. З кожным днём я ўсё ясней пачынаю разумець, як важна здолець навучыцца лепшаму, чым настаўнік валодае.



**— Уяўляю, колькі сілы трэба маладому артысту, каб не згубіцца ў велізарнай прасторы такога мегаполіса, як Масква. Ці ёсць у вас апекуны? Да якога музычнага кола вы належыце?**

— Пакуль я знаходжуся яшчэ "пад крылом" роднай Акадэміі. І толькі ажыццяўляю першыя спробы пачаць самастойную дзейнасць. На жаль, без саліднага патраната немагчыма колькі-небудзь паспяхова рэалізаваць сябе. Ёсць і ўнутраныя складанасці: дзеля таго, каб удасканальвацца і дасягнуць вяршыняў, трэба шмат працаваць. Таму сіл на барацьбу за існаванне пакуль не хапае. Але надзея жыве.

**— Вы іграеце Скарлаці, Баха, Шапэна, Ліста, Равеля, Альбеніса. Ваш рэпертуар досыць шырокі. Ёсць, відаць, і любімыя аўтары?**

— Я люблю іграць рамантычную музыку. Хоць лічу для сябе немагчымым цяпер прысвяціць усе сілы аднаму кампазітару або аднаму стылю: манаграфічнасць — гэта не мой падыход. Што да сучаснай музыкі... Яна (выключаючы бясспрэчныя шэдэўры, вядома) здаецца мне хутчэй цікавай, чым захапляючай. Кампазітары сёння не столькі ствараюць, колькі спрабуюць ствapыць вялікія творы.

**— Дарога да Алімпа выбрукавана камянямі. Тым не менш я веру ў тое, што вас чакаюць прызнанне і вядомасць!**

**Віталь РАДЗІЁНАЎ**

# ЖЫНОВІЧ, ШУШКЕВІЧ І — ?




На жаль, нам амаль няма чаго сказаць пра гэты фотаздымак. Спадзёмся, што вызначыць хаця б нейкіх людзей у самавітым гурце дапамогуць нашы сталыя чытачы. Пэўная падказка для дапытлівых — у надпісе: "Вучнёўскі камітэт і актыў практ.-паказальнае школы пры Белпэдтэхнікуме імя У. М. Ігнатоўскага. (Чыйго імя — закрэслена чарнілам. — **Рэд.**). 20/XII-25 г. *Менск*".

Вядомая рупліўца народна-інструментальнага мастацтва Зоя Мікітаўна Насценка, якая прынесла гэтае фота ў аддзел музыкі "ЛіМа", звярнула ўвагу на твары двух чалавек, якіх удалося пазнаць. У другім радзе знізу, першы злева — малады Станіслаў Пятровіч Шушкевіч, цяпер ужо наш хрэстаматыйны пісьменнік. Непадалёк ад яго, трэці злева ў гэтым жа радзе — Іосіф Іосіфавіч Жыновіч, цяпер ужо хрэстаматыйны дзеяч музычнага мастацтва, цымбаліст-віртуоз, педагог... Але ж вакол іх — яшчэ два дзесяткі годных, прыгожых, маладых твараў! Мабыць, нашчадкі гэтых людзей маюць у сваіх сямейных альбомах гістарычны здымак 1925 года і маглі б паведаміць штосьці адметнае? Мабыць, ёсць апісанне здымка ў архівістаў, даследчыкаў? Мабыць, знойдзецца чытач, для якога наша фотазагадка — іскрынка памяці пра далёкае юнацтва?

## НА ВОСТРАВЕ ДУШЫ

**Прыхільнікі беларускай паэзіі добра ведаюць імя наваполацкага паэта Навума Гальпяровіча. Вядомы ён і як журналіст. І вось ужо другі сезон у рамках абанементных вечарынаў тэатра паэзіі "Зніч" адбываецца сустрэча з ім. Імпрэза мае назву "На востраве душы". У гэтым сезоне адбылася яна 19 верасня, у памяшканні Нацыянальнай бібліятэкі.**

**Пачалася вечарына з паэтычнага эпіграфа — кампазіцыі па творах паэта, якую выканаў артыст А. Шчараў, і ўступнага слова мастацкага кіраўніка тэатра "Зніч" Галіны Дзягілевай. А далей рэй павяла пачынаючая журналістка, дачка Навума Гальпяровіча Вольга Гальпяровіч. Яна мусіла даказаць прысутным сваё прафесійнае майстэрства і... правяла цікавую гутарку са сваім бацькам.**

**Далей у вечарыне бралі ўдзел гісторык Мікола Ермаловіч, крытык Пятро Васючэнка, паэтка, яна ж супрацоўніца бібліятэкі, Людка Сільнова, дырэктар бібліятэкі Галіна Алейнікава. Прыехалі на вечарыну і землякі паэта. Загадчык Наваполацкага аддзела культуры Людміла Касьянава з дачкой Люсяй цудоўна выканалі пад гітару песні на вершы Н. Гальпяровіча. Магілёўскі кампазітар Мікола Яцкоў таксама парадаваў слухачоў песнямі на вершы героя вечарыны.**

**Адбылася сустрэча не толькі з паэтам, але і з асобай. Нездарма гэты абанемент тэатра "Зніч" мае назву "Тайна знічнага святла" — бо кожны творчы чалавек, асабліва паэт, гэта неспазнаны свет. Шчырая, пранікнёная паэзія Навума Гальпяровіча дазволіла прысутным пабываць на "востраве паэтавай душы", але і пераканацца, што зніч паэзіі — таямніца.**

**Н. К.**

## ДЛЯ ЗЕМЛЯКОЎ



**У раённым цэнтры Акцябрскі Гомельскай вобласці пастаянна дзейнічае выстава карцін. Значнае месца ў экспазіцыі займаюць работы земляка, ураджэнца вёскі Растоў Леаніда Дробава — аўтара многіх манаграфій па мастацтве, доктара мастацтвазнаўства. Мастак часцяком наведваецца ў родныя мясціны, прычым не з пустымі рукамі, а з падарункам — адной з апошніх работ. Сёлета, напярэдадні свайго 70-годдзя Леанід Дробаў перадаў для галерэі серыі сваіх работ, якія змогуць убачыць усе жыхары раёна.**

*На здымку: у выставачнай зале галерэі.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## ПЕРАБІРАНКІ



**Так некалі называлі вырабы ткацтва, зробленыя ўручную ў хатніх умовах. Кожную ніточку, успамінае Вольга Лысак, трэба было некалькі разоў перабраць, перш чым атрымаецца прыгожы малюнак. А працавітасці і ўседлівасці Вольгу навучыла маці, прымушаючы кожную вольную хвілінку рыхтаваць сабе пасаг. Сёння для Вольгі Фёдараўны ткацтва — частка жыцця, без якой яна сябе не ўяўляе. Да пенсіі яна працавала ў саўгасе "Парэчча" Кастрычніцкага раёна, а цяпер, калі больш часу, з задавальненнем займаецца ткацтвам.**

*На здымку: Вольга Фёдараўна Лысак, неаднаразовая ўдзельніца конкурсаў народнай творчасці ў раёне, са сваімі перабіранкамі.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

*НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ*

# УСХОДЫ ЗЛА

Праблемы вёскі, сялянскага жыцця — традыцыйная тэма ў беларускай літаратуры. Дастаткова згадаць хаця б "Новую зямлю" Я. Коласа і "Палескую хроніку" І. Мележа, што з'яўляюцца нашым нацыянальным гонарам. Як жа няпроста пасля такіх папярэднікаў сказаць сваё адметнае слова пра свой народ, пра сваю зямлю! Задача больш складаная, чым узвесці ў абжытым, прыгожым гарадскім квартале новы дом, які б прыцягваў увагу не толькі ўтульнасцю для ягоных жыхароў, але і вабіў сваёй архітэктурнай адметнасцю.

Дом Генрыха Далідовіча — раман "Заходнікі" — пабудаваны на трывалым падмурку народнага жыцця. Маючы перад сабой узоры сапраўднай літаратуры, узбагачаны гістарычным вопытам грамадства і ўласнай творчай практыкай па напісанні трылогіі "Гаспадар-камень", "Пабуджаныя", "Свой дом", Генрых Далідовіч у рамане "Заходнікі" адлюстраваў жыццё беларускай вёскі першых пасляваенных гадоў, той пласт народнай псіхалогіі, маралі і этыкі, што нявечыўся ў працэсе ўтапічных эксперыментаў. Разам з тым, раман "Заходнікі" — гэта твор і аб сучаснасці, бо, выкарыстоўваючы арыгінальную форму (раман у рамане), пісьменнік даводзіць дзеянне ў творы да нашых дзён. Пад такім двайным вуглом гледжання — аўтара і ягонага героя, ці, лепш сказаць — антыгероя Кураглядава — усё, што адбываецца ў рамане, атрымлівае асаблівую напоўненасць і стэрэаскапічнасць.

Зрэшты, падзеі, аб якіх апавядае пісьменнік таксама асаблівыя. Гэта гістарычны пералом у лёсе беларускай вёскі, сялянства, што стала ахвярай вялікага здзеку ў сталінскія часы і прайшло праз жахі прымусовай калектывізацыі. Асаблівасць яшчэ і ў тым, што "заходнікі" ўжо ведаюць аб згубных выніках перабудовы вясковага ўкладу на "новы" лад там, на ўсходзе, дзе адпаведная ломка адбылася яшчэ ў пачатку 30-х гадоў.

Ужо на першых старонках твора Г. Далідовіч знаёміць нас са сваімі героямі — Францішкам Грыгарцэвічам і ягоным пляменнікам Сцяпанам, людзьмі сумленнымі, працавітымі, высокамаральнымі. Адметнасць жыцця гэтых персанажаў у тым, што яны народжаны і жывуць у эпоху вялікіх грамадска-сацыяльных катаклізмаў, іх апаліла вайна і гады пасляваеннага ліхалецця. Жыццё гэта не мае пэўнасці, людзі чакаюць новых (не лепшых) змен, хоць і спадзяюцца неяк перацярпець. Вёска яшчэ не акрыяла ад удару, нанесенага вайной, сяляне жывуць у зямлянках, прыдушаныя падаткамі і іншымі паборамі, з якімі цярпліва, як з аблажнымі зацяжнымі дажджамі, вымушаны лічыцца і Грыгарцэвічы. У героях твора бясконца адымаюць: то радасць шчаслівага кахання, то апошнюю капейку ці бульбіну, то дзялянку лесу, і трэба цяпер выпрошваць драўніны на столь і вокны, даючы хабар начальніку, аддаваць дзяржаве мяса, малако, яйкі і інш. На працягу раманнага часу і Францішак, і Сцяпан Грыгарцэвічы мужна абараняюць сваю чалавечую годнасць, застаюцца нязломнымі нават перад крымінальнікамі, у асяроддзе якіх трапляюць пасля таго, як па хлуслівым даносе іх арыштоўваюць, адрываюць ад усяго, што надавала іхняму жыццю сэнс.

Як вядома, крызіс калгаснай сістэмы надзвычай хвалюе сённяшняе грамадства. Г. Далідовіч сваім раманам "Заходнікі" ўступае ў дыялог з ужо выказанымі меркаваннямі пра лёс беларускай вёскі і выказвае сваю аб'ектыўную думку безадносна да пазіцый палітычных партый ці грамадскіх рухаў.

Сапраўдная творчая ўдача Г. Далідовіча, роўная мастацка-філасофскаму адкрыццю — гэта цэнтральны герой рамана, старшыня сельсавета, а затым калгаса Апанас Кураглядаў. Менавіта з ім так ці інакш звязаны і ўзаемадзейнічаюць усе астатнія персанажы. Характар гэты жывы і шматзначны. Варта адзначыць, што такога беларуская літаратура раней не ведала.

Кураглядаў — спараджэнне таталітарнага рэжыму, ягоны сын і абаронца. Ён вырас, сфарміраваўся ва ўмовах пастаяннай вайны дзяржавы з уласным народам. Бязлітаснасць як галоўная рыса таго часу вельмі выразна праглядвае ў паводзінах Кураглядава, які, паводле ягоных перакананняў, "павінен служыць дзяржаве, партыі", а найперш "бацьку народаў".

Г. Далідовіч з дапытлівасцю, уласцівай сапраўднаму майстру, паказвае вытокі гэтага характару. З застольнай размовы Кураглядава з ягоным земляком Сяргеевым, што быў у трыццатыя гады першым старшынёй калгаса ў далёкім расійскім Ветраве, а цяпер прыехаў да заходнікаў жабраваць, бачна, што Кураглядаў змалку ўхіляўся ад чорнай работы, але заўсёды стараўся ўварваць лепшы кавалак. "Змаладу цягнуўся да піянераў і камсамольцаў, тачыў зубы на чужое дабро". Людзі сталі баяцца гэтага актывіста, бо зразумелі, што дзеля ўласнай выгады ён гатовы ўтапіць роднага бацьку.

Кураглядаў рана зразумеў, як ён любіць гаварыць, "дыялектыку" жыцця: каб выжыць, трэба біць іншых. Такім Кураглядава зрабіла сістэма, бо не было ў яго ўнутранага рэгулятара — працавітасці, дабрыні, спагады да чалавека, якія б дапамаглі выстаяць перад наступам змрочных сіл, што далі волю самым прымітыўным чалавечым інстынктам. Таму Кураглядаў ахвотна ідзе за камсамольскім важаком Бяздомным, што прыехаў з горада, заўважыў і настроіў Апанаса на патрэбны лад. Якраз па падказцы камсамольца-сакратара Кураглядаў зжыў са свету свайго роднага дзядзьку Яўграфа, працавітага селяніна, дабіўся ягонага раскулачвання і тым самым перад начальствам засведчыў сваю свядомасць і адданасць. Семя зла, кінутае на прыдатную глебу, дало багатыя атрутныя ўсходы. Адвернуты сістэмай ад самога разумення дабра і справядлівасці, ад усяго таго, што замінала, на думку перабудоўшчыкаў, на шляху да ілюзорнай мэты, пачынае Кураглядаў паступовае прырастанне да наменклатуры. Ён адчуў: "Я — сіла, звязаная з вялікай вышэйшай сілай!.."

Кураглядаў без аглядкі ідзе за гэтай сілай, няўхільна трымае лінію партыі і бюракратыі, паспяхова ўжываецца з ёю і з цягам часу становіцца "сваім" у гэтай сістэме. Яшчэ да вайны Кураглядаў усвядоміў: той, хто чымсьці ўхіляецца ад генеральнай лініі ці не паспявае да яе зігзагамі, як гэта здарылася з ягоным земляком Сяргеевым, той тым самым сведчыць пра сваю адмоўнасць і ў рэшце рэшт паўстае як яўны ці замаскаваны класавы вораг. А таму ў Кураглядава выспела цвёрдае пераканане: "Цісні, даві ўсіх незадаволеных і няўгодных! Калі трэба, то — і свайго дзядзьку ды бацьку! Вось тады ты — кіраўнік!"

Якія яшчэ ступені "росту" прайшоў Кураглядаў, што вясковым хлопцам першы раз трапіўшы ў горад, баяўся цягніка? Шафёрскія курсы, праца ў калгасе, нядоўгая служба ў войску, а затым вайна. Зімой сорак другога года "хлопцы з Вялікай зямлі", з якімі "да трох не гавары", забралі ў партызаны. Як успамінае сам Кураглядаў, "на ражон не лез, бярог галаву, але і не філоніў. Дык і ў людзі выбіўся. Камандзірам узвода стаў, у партыю ўступіў, ордэн і некалькі медалёў атрымаў".

Аднак, прайшоўшы праз выпрабаванні партызанствам, Кураглядаў не стаў вышэй, святлей, не ачысціўся душой, наадварот, —ператварыўся ў яшчэ больш хітрую і жорсткую істоту, у якой адно за адным канчаткова адміраюць, здавалася б, невынішчальныя пачуцці, — забыўся нават на жонку і сына, якіх, як і іншых вяскоўцаў, па прызнанні Сяргеева, калгас "давёў да торбы".

Пасля вызвалення на фронт Кураглядаў не трапіў. Уладкавацца "далей ад перадавой, снарадаў і куль" дапамог партызанскі сябрук Уладароў, які зрабіўся сакратаром райкома і падбіраў сабе адпаведныя кіраўнічыя кадры. Пасля, зняты з пасады дырэктара мясакамбіната за амаральныя паводзіны, Кураглядаў тым не менш з ласкі Уладарова не выпадае з кіраўнічай абоймы. Чаму? "Бо ад лініі не адстаю, не збочваю, устойваю на нагах на ўсіх паваротах".

Не абцяжараны працай, выкарыстоўваючы рэальную ўладу над лёсам і жыццём вяскоўцаў, і на пасадзе старшыні сельсавета, а пасля калгаса Кураглядаў паводзіць сябе, як заваёўнік у чужой краіне, робячы стаўку ў сваіх дачыненнях з людзьмі на знявагу і пагрозы, данос, міліцыю і сілу зброі, з якой не расстаецца ні ўдзень, ні ўночы. З вялікім задавальненнем і асалодай старшыня "ганяе" сваіх сабутыльнікаў і падначаленых — начальніка пашпартна-ваеннага стала Навуменкава, фінагента Клопікава, дае ім накачку, загад — націснуць, "узмацніць меры". Як ажыццяўляць гэта, Кураглядаў падае асабісты прыклад у час бульбанарыхтоўкі, выклікаючы абурэнне, здавалася б, да ўсяго звыклых вяскоўцаў. Кураглядаў, як сапраўдны майстар "класавай барацьбы", умее адшукаць нават тое, чаго няма, але што патрэбна ў дадзены момант больш высокаму начальству, загадвае выкапаць і забраць ужо пасеяную жанчынамі бульбу, не забываючыся пры гэтым і на свой інтарэс.

Калі б Кураглядаў глядзеў на свет нармальнымі чалавечымі вачыма, ён бы ўбачыў, што ў вёсцы людзі як людзі, лаяльныя да ўлады, хочуць мірна жыць і працаваць на ўласнай зямлі, бо разумеюць, што ў калгасе селянін стане парабкам. Аднак справа ў тым, што ён глядзіць на ўсё праз бінокль сталінскай класавай барацьбы і бачыць у селяніне з ягонай верай у Бога ворага, якога неабходна знішчыць і як клас і як асобу. Гэта Кураглядаў паспяхова зрабіў у дачыненні да тых жа Грыгарцэвічаў.

Упэўненасць у сваёй беспакаранасці прыводзіць Кураглядава да звычайных крымінальных злачынстваў. Як ваўкі ў зграі, моцныя сваёй спайкай і звязаныя агульнымі карыслівымі інтарэсамі, Кураглядаў разам са старшынёй суседняга сельсавета Курловым і участковым міліцыянерам Лявонавым аб'ядноўваюцца ў банду і па начах рабуюць дзяржаўныя магазіны. Паказальна, што начальнік раённай службы бяспекі Мірзоеў настойліва ўгаворвае Сцяпана Грыгарцэвіча ўзяць "на сябе" рабаванне магазіна, абяцаючы ўзамен адправіць за краты на пяць год як крымінальнага злачынцу, а не на дваццаць пяць год — за міфічную антысавецкую агітацыю. Кола, як бачым, замкнулася: Кураглядаў са сваімі хаўруснікамі рабуе, а энкавэдыст дапамагае ім замесці сляды.

Драпежніцкая дзейнасць Кураглядава спалучаецца з парушэннем агульначалавечых маральна-этычных нормаў. Герой нясе ў сабе актыўную разбуральную сілу: усё, да чаго дакранаецца ён — дэградуе. Г. Далідовіч выдатна паказаў гэта праз лёс сельсавецкага конюха Мішкі Супраневіча, а таксама праз паводзіны шматлікіх палюбоўніц Кураглядава.

Знаходзячыся на пенсіі, Кураглядаў піша ўспаміны, у якіх імкнецца амніціяваць сваю былую дзейнасць. З дыстанцыі пражытых гадоў Кураглядаву і сёння свеціць дарагое яму мінулае. І ніякія сведчанні аб жахах сталіншчыны, таталітарнага рэжыму не могуць перайначыць гэтага "хранікёра", які і цяпер пераканаваны, што на чалавека патрэбен кій.

Г. Далідовіч у рамане "Заходнікі" выявіў смеласць у пастаноўцы важных грамадскіх праблем, узроўню сацыяльную відушчасць. Ён паказаў, што, вылучыўшы на камандныя вышыні нікчэмных людзей тыпу Кураглядава і Уладарова, сістэма тым самым раней ці пазней не магла не прыйсці да свайго ганебнага фіналу. Узгадаваныя партыйнай апекай, выхаваныя культам сілы і бяспраўя, гадамі беспакаранага глумлення над праўдай і справядлівасцю, яны непазбежна прыйшлі самі і прывялі саму сістэму да дэмаралізацыі і краху. У гэтым таксама праўда жыцця і значнасць рамана Г. Далідовіча. Невыпадкова ў сваёй "Хроніцы" Кураглядаў выступае настальгічным плакальшчыкам па сталінскім часе, даступнымі яму сродкамі хоча павярнуць назад кола гісторыі.

Генрых Далідовіч у рамане "Заходнікі" стварыў вобраз вялікай выкрывальнай сілы, тыповы не толькі для свайго часу. Пісьменнік убачыў і па-мастацку паказаў, што менавіта на такіх характарах многае трымалася ў каманднa-адміністрацыйнай сістэме. Яны не адышлі ў нябыт, не спісаны часам.

Раман "Заходнікі" напісаны ў лепшых традыцыях беларускай рэалістычнай прозы. Кожная мастацкая дэталь (спашлюся хаця б на адну красамоўную і сімвалічную — вытканая фашысцкая свастыка, якую не заўважае сакратар райкома Уладароў на трафейным дыване ў сваім службовым кабінеце і дома), кожная карціна, учынак героя, жэст, інтанацыя, міміка — усё пісьменнікам выверана і сацыяльна і псіхалагічна. І ўсё гэта арганічна звязана з клопатамі і трывогамі сённяшняга дня, з высвятленнем тых прычын і наступстваў, якія спарадзілі цяперашні стан спраў у нашым грамадстве.

Несумненна, што аўтар рамана "Заходнікі" Генрых Далідовіч мае ўсе падставы быць удастоеным Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

**Анатоль МАЙСЕЕНКА,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**дацэнт Беларускага універсітэта культуры**

***У канцы жніўня 1939 года над светам быццам выбухнула бомба: СССР і Германія, якія яшчэ нядаўна люта ненавідзелі адно аднаго, нечакана для ўсіх падпісалі дагавор аб ненападзе. Ніхто яшчэ не ведаў, што да яго прыкладаўся сакрэтны пратакол, у якім быў зафіксаваны падзел Усходняй Еўропы на сферы ўплыву паміж Масквой і Берлінам.***

***Праз тыдзень германскія войскі ўступілі ў Польшчу, а праз 17 дзён савецка-польскую мяжу перайшла Чырвоная Армія. Як і прадугледжвалася ў сакрэтных пратаколах, Польшча была падзелена паміж СССР і Германіяй па лініі рэк Нараў—Вісла—Сан.***

***Дагэтуль робяцца спробы растлумачыць гэтую акцыю Сталіна толькі "клопатам аб бяспецы нашай краіны", яго імкненнем "адсунуць заходнія межы СССР" перад гітлераўскай агрэсіяй, "прыйсці на дапамогу беларускім і ўкраінскім братам" у Польшчы. Тут — толькі частка праўды. Другі, ценявы бок гэтай праўды доўгія гады проста не афішыраваўся...***

***"Вялікі вызваленчы паход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Украіну і Заходнюю Беларусь" быў забыты ўжо праз два гады пасля свайго ажыццяўлення, а дакладней, 22 чэрвеня 1941 года. Замоўчванне ваенных падзей 1939 года дасягнула мэты: поўную панараму той восені мы ўжо не ўзновім. Паспрабуем аднавіць хоць бы фрагменты.***

# ВЕРАСЕНЬ 1939-ГА

Калі пасля Гляйвіцкай аперацыі танкі Гудэрыяна рушылі да Варшавы, савецкая прэса амаль не адрэагавала на гэту падзею. Газеты былі запоўнены рэпартажамі пра грандыёзнае свята фізкультурнікаў на стадыёне "Дынама", пра фестываль у Сакольніках, урачыстае свята Міжнароднага дня моладзі ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Мінску.

У эйфарыі суцэльных святаў савецкі народ проста не заўважыў пачатку другой сусветнай вайны. Пахаваныя на апошніх старонках газет маленькія нататкі са стандартным загалоўкам "Да германапольскага канфлікту" стварылі ўражанне дробязнай лакальнай вайны, якая не мае ніякага значэння ні для СССР, ні для астатняга свету.

У пачатку вайны ў Берліне Гітлер, прымаючы вярыцельныя граматы ў новага савецкага пасла Аляксандра Шкварцава, быў змрочны і задуменны. Заканчваўся тэрмін англа-французскіх ультыматумаў, якія патрабавалі неадкладнага вываду нямецкіх войск з тэрыторыі Польшчы. Гітлера мучылі сумненні: ці не падвядзе ў апошні момант ягоны маскоўскі сябар? Сталін прыслаў Шкварцава ў той момант на вакантнае месца савецкага пасла, каб падбадзёрыць фюрэра і запэўніць яго, што ўсё будзе, як дамовіліся.

Гітлер асабліва цікавіўся, калі савецкія войскі ўвойдуць у Польшчу. Ён меркаваў, што гэта акцыя аўтаматычна зробіць СССР яго саюзнікам, бо Англія і Францыя вымушаны будуць аб'явіць вайну і Савецкаму Саюзу. Нават такому вопытнаму палітыку, якім быў Гітлер, яшчэ не раз давядзецца здзіўляцца і захапляцца сталінскімі метадамі захопу чужых тэрыторый.

Між тым, вайна ў Польшчы ішла не зусім так, як яе распланавалі ў Берліне. На ўсіх участках фронту палякі аказвалі яраснае супраціўленне. Рассечаныя танкавымі клінамі Гудэрыяна польскія войскі, навязаўшы немцам бітву на Дзуры і стварыўшы пагрозу выхаду буйных кавалерыйскіх часцей у тыл танкавым групоўкам, здолелі пазбегнуць акружэння і адвесці асноўныя сілы сваёй арміі за Віслу, дзе польскае камандаванне разлічвала, перагрупаваўшы сілы, перайсці ў контрнаступленне.

Уся прэса свету, уключаючы і нямецкую, адзначала гераічнае супраціўленне польскай арміі. Абарона Вестэрплятэ, Хела, Гдыні, Варшавы выклікала захапленне свету, а бітву на Дзуры нават "Фолькішэр Беабахтэр" назвала "найбольш жорсткай у гісторыі". Савецкі друк пра ўсё гэта маўчаў. Наадварот, з нумара ў нумар усе савецкія газеты са здзіўленнем адзначалі, што палякі не аказваюць немцам ніякага супраціўлення, што Польшча фактычна акупавана і невядома, дзе знаходзіцца яе ўрад.

"Можа ўзнікнуць пытанне, — пісала "Праўда" за 14 верасня ў рэдакцыйным артыкуле, — чаму польская армія не аказвае немцам ніякага супраціўлення? Гэта адбываецца таму, што Польшча не з'яўляецца аднанацыянальнай краінай. Толькі 60 працэнтаў насельніцтва складаюць палякі, астатнюю ж частку — украінцы, беларусы, яўрэі... Адзінаццаць мільёнаў украінцаў і беларусаў жылі ў Польшчы ў стане нацыянальнага прыгнёту... Польскі ўрад праводзіў палітыку гвалтоўнай паланізацыі...

Пакуль за мяжой гадалі, што азначае хлусня, змешчаная ў "Праўдзе", разгадка не прымусіла сябе чакаць. 17 верасня польскі пасол у Маскве Вацлаў Гжыбоўскі быў тэрмінова выкліканы ў наркамат замежных спраў. Намнаркома Пацёмкін, які прыняў яго, зачытаў ноту з наступным тэкстам: "Германа-польская вайна паказала ўнутранае банкруцтва польскай дзяржавы... Варшава, як сталіца Польшчы, не існуе больш. Польскі ўрад распаўся і не праяўляе прыкмет жыцця. Гэта азначае, што польскі ўрад і польская дзяржава фактычна перасталі існаваць. Тым самым спыніліся свае дзеянне дагаворы, заключаныя паміж СССР і Польшчай... Савецкі ўрад не можа таксама абыякава ставіцца да таго, каб адзінакроўныя ўкраінцы і беларусы, якія жывуць на тэрыторыі Польшчы, кінутыя на волю лёсу, засталіся безабароннымі. З прычыны такой абстаноўкі Савецкі ўрад аддаў распараджэнне Галоўнаму камандаванню Чырвонай Арміі даць загад войскам перайсці мяжу і ўзяць пад сваю абарону жыццё і маёмасць насельніцтва Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі".

Кожнае слова ў гэтай ноце прасякнута хлуснёй. Польскі ўрад знаходзіўся ў мястэчку Куты паблізу румынскай мяжы. Што тычыцца Варшавы, то сталіца Польшчы была захоплена немцамі толькі 27 верасня. Аднак, імкнучыся хутчэй атрымаць дапамогу з усходу, немцы ўжо 9 верасня аб'явілі аб узяцці Варшавы.

З гэтай прычыны ў той жа дзень Молатаў накіраваў віншавальную тэлеграму Рыбентропу: "Я атрымаў Ваша паведамленне аб тым, што нямецкія войскі ўвайшлі ў Варшаву. Калі ласка, перадайце мае віншаванні і прывітанні ўраду Германскай імперыі".

У 2 гадзіны ночы ў Крэмль быў выкліканы германскі пасол граф фон Шэленбург. Сталін прыняў яго ў прысутнасці Молатава і Варашылава. Пасля узаемных прывітанняў паслу аб'явілі, што сёння, 17 верасня 1939 года, у 6 гадзін раніцы Чырвоная Армія пяройдзе польскую мяжу на ўсім працягу ад Полацка да Камянец-Падольска. Каб пазбегнуць магчымых інцыдэнтаў паміж савецкімі і нямецкімі лётчыкамі, была перададзена просьба, каб нямецкая авіяцыя не залятала на ўсход ад лініі Беласток—Брэст—Львоў.

На мяжы з Польшчай было засяроджана 54 стралковыя і 13 кавалерыйскіх дывізій, 18 танкавых брыгад і 11 артылерыйскіх палкоў рэзерву Галоўнага камандавання агульнай колькасцю каля 600 тысяч чалавек. Іх баявыя дзеянні падтрымлівалі 4 тысячы танкаў, 5500 гармат і 2 тысячы самалётаў. Гэтыя сілы былі падзелены на два франты — Украінскі пад камандаваннем камандарма 1-га рангу С. Цімашэнкі і Беларускі пад камандаваннем камандарма 2-га рангу М. Кавалёва.

Уварванне савецкіх войск польскае камандаванне не чакала. Ніхто спачатку не зразумеў, што адбылося. Што гэта: прыход саюзнікаў ці ўварванне? Аднак адказ на гэтае пытанне далі савецкія бомбы і снарады, якія абрынуліся на польскія пазіцыі. Адыграла сваю ролю і дырэктыва камандуючага польскімі войскамі маршала Рыдз-Шміглова, які загадаў не ўступаць у бой з часцямі Чырвонай Арміі і адыходзіць на тэрыторыю Румыніі і Венгрыі.

Пераважная большасць польскіх баяздольных часцей была нацэлена для ўдару па немцах. Чырвонай Арміі аказалі супраціўленне галоўным чынам часці корпуса пагранічнай аховы. І тым не менш, разгарнуліся моцныя баі пад Гароднямі, Шацкам і Аранам. Пад Перамышлем два пяхотныя палкі былі начыста высечаны ўланамі генерала У. Андэрса. Цімашэнка паспеў увесці ў бой танкі, прадухіліўшы прарыў польскай конніцы на тэрыторыю СССР.

Гераічны польскі гарнізон Брэсцкай крэпасці пад камандаваннем генерала К. Плісоўскага адбіў усе атакі Гудэрыяна. Гудэрыян нерваваўся. Выручыла цяжкая артылерыя камбрыга Крывашэіна, якая абстрэльвала крэпасць на працягу двух сутак несупынна. Разгарачаныя боем, абдымаліся на тыраспальскім мосце праз Буг "браты па зброі" — салдаты Кавалёва і Гудэрыяна.

З выпадку слаўнай перамогі ў Брэсце тут неўзабаве адбыўся грандыёзны ваенны парад. Пад ваяўнічыя гукі Брандэнбургскага марша маршыравалі савецкія і нямецкія салдаты. Прымаючы парад, на трыбуне плячо ў плячо стаялі генерал Гудэрыян і камбрыг Крывашэін, чыя цяжкая артылерыйская брыгада памагла Гудэрыяну выканаць задачу па захопе Брэсцкай крэпасці.

"Дружба, змацаваная крывёй!" — скажа пазней Сталін у тэлеграме Гітлеру.

Чырвоная Армія ўзяла ў палон 240 тысяч польскіх вайскоўцаў. Транспарту, турмаў і лагераў, вядома, не хапала, таму адразу ж пачаліся масавыя расстрэлы ваеннапалонных. Брацкія магілы — сляды "вызваленчага паходу" — знаходзяцца пад Гароднямі, у Ашмянах, Вілейцы, Маладзечне, Сарнах, Навагрудку, Курапатах, Рагатыне, Косаве-Палескім, Ваўкавыску і многіх іншых месцах.

Афіцыйна былі аб'яўлены і уласныя страты: 737 забітых, 1862 параненых. Усяго: 2599 чалавек. (Сапраўдныя страты склалі 5327 чалавек, у тым ліку забітых — 1386. — І. К.).

25 верасня 1939 года фон Шэленбург тэлеграфуе ў Берлін:

"Сталін заявіў: у канчатковым урэгуляванні польскага пытання трэба пазбягаць усяго, што ў будучым магло б выклікаць сутыкненне паміж Германіяй і Савецкім Саюзам. З гэтага пункту погляду ён лічыць памылковым пакідаць незалежную польскую дзяржаву. Ён прапануе наступнае рашэнне: з тэрыторый на ўсходзе ад дэмаркацыйнай лініі да нашай часткі павінны быць далучаны ўсё Люблінскае ваяводства і частка Варшаўскага ваяводства, якая прасціраецца да Буга. Узамен мы павінны адмовіцца ад нашых прэтэнзій на Літву..."

Паследаваў хуткі адказ з Берліна, што фюрэр змяніў сваю першапачатковую думку і лічыць пункт гледжання Сталіна больш рэалістычным.

27 верасня 1939 года "Праўда" паведаміла: "Па запрашэнні ўрада СССР 27 верасня г.г. у Маскву прыбывае міністр замежных спраў Германіі пан фон Рыбентроп для абмеркавання з урадам СССР пытанняў, звязаных з падзеямі ў Польшчы".

Рыбентроп прыбыў у Крэмль на начныя перамовы. Гітлер пагадзіўся са сталінскім планам абмену польскіх зямель на Літву. "Гітлер ведае сваю справу", — задаволена заўважыў Сталін і ў прыліве велікадушнасці падараваў Рыбентропу вялікае паляўнічае ўгоддзе ў Белавежскай пушчы, заўважыўшы, што гэтаму падарунку, відаць, больш за ўсіх узрадуецца Герынг, вядомы сваёй страсцю да палявання.

У нязмушанай абстаноўцы паважлівай гутаркі і жартаў быў падпісаны новы савецка-германскі дагавор, які атрымаў назву "Дагавор аб дружбе і мяжы". Дагавор быў кароткі і складаўся ўсяго з чатырох артыкулаў.

На прыкладзенай да дагавора сакрэтнай карце была старанна выведзена дэмаркацыйная лінія чацвёртага падзелу Польшчы з паправкамі, якія асабіста зрабіў Сталін, саступаючы паляўнічыя ўгоддзі Рыбентропу. Адпаведна гэтаму Сталіну давялося двойчы падпісваць карту. Другі раз яго росчырк з тэрыторыі Заходняй Беларусі прарэзаў Украіну і адыходзіў у Румынію.

Перад ад'ездам з Масквы Рыбентроп даў інтэрв'ю карэспандэнту ТАСС, адзначыўшы наступныя палажэнні:

"1. Германа-савецкая дружба цяпер устаноўлена канчаткова.

2. Абодва бакі ніколі не дапусцяць умяшальніцтва трэціх дзяржаў ва ўсходнееўрапейскія пытанні.

3. Абедзве дзяржавы жадаюць, каб мір быў адноўлены і каб Англія і Францыя спынілі абсалютна бессэнсоўную і бесперспектыўную барацьбу супраць Германіі.

4. Калі, аднак, у гэтых краінах возьмуць верх падпальшчыкі вайны, то Германія і СССР будуць ведаць, як адказаць на гэта".

Што і казаць, Сталін быў задаволены. Тэрыторыі, уключаныя ў склад СССР у выніку разгрому і падзелу Польшчы, мелі плошчу каля 200 тысяч квадратных кіламетраў з насельніцтвам у 13,4 мільёна чалавек.

Неадкладна пачалося правядзенне зноў набытых тэрыторый да агульнасаюзных. Мясцовыя аддзелы НКУС БССР атрымалі сакрэтны загад наркома ўнутраных спраў Л. Берыі N 001223 ад 11 кастрычніка 1939 года, паводле якога належала арганізаваць тэрміновы ўлік "контррэвалюцыйных элементаў і варожых катэгорый насельніцтва" незалежна ад таго, удзельнічалі яны ў антысавецкай дзейнасці або не. Хутка складзеныя спісы ўключалі ў сябе не толькі былых ваеннаслужачых польскай арміі, жандармерыі і паліцыі, але і служачых дзяржаўных устаноў, грамадскіх і рэлігійных дзеячаў, членаў украінскіх, беларускіх і польскіх культурных і нават спартыўных таварыстваў.

На працягу кастрычніка—лістапада 1939 года з савецкіх лагераў было адпраўлена па дамах 42000 беларусаў, украінцаў, палякаў, якія пастаянна жылі ў Навагрудскім ваяводстве, Палессі, на Валыні і ў іншых раёнах Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. 19 лістапада 1939 года выйшла ўказанне Берыі аб зборы пакінутых (або не прынятых Германіяй) афіцэраў польскай арміі ў Старабельскім, Асташкаўскім і Козельскім лагерах.

Непасрэдны прысуд аб расстрэле больш за 23 тысячы афіцэраў польскай арміі быў вынесены Асаблівай нарадай НКУС СССР на падставе рашэння Палітбюро ЦК ВКП(б) у красавіку 1940 года.

Следства, праведзенае ў 1990—1992 гадах следчай групай Галоўнай ваеннай пракуратуры, выявіла, што не толькі ў рвах Катыні ляжаць афіцэры польскай арміі. Прынамсі, афіцэры — паняцце занадта агульнае, яно не дае поўнага ўяўлення аб тым, хто быў прызначаны да ліквідацыі. Дзве трэція інтэрніраваных складалі афіцэры запасу польскага і беларускага паходжання: інжынеры, настаўнікі, адвакаты, урачы, выкладчыкі, ліцэісты, студэнты, святары.

Прычым у Катыні пахаваны толькі тыя афіцэры, якія знаходзіліся ў Казельскім лагеры. Дзе закончыўся крыжовы шлях іх таварышаў з іншых лагераў, не было вядома да нядаўняга часу. Сёння ўстаноўлены і месцы іх пакарання, і месцы пахавання — лесапаркавая зона ў Харкаве і пасёлак Меднае ў Цвярской вобласці. Ёсць усе падставы сцвярджаць, што больш за 3 тысячы былых грамадзян Польшчы было расстраляна ў Курапатах. Аб гэтым сведчаць дакументы і матэрыялы, сабраныя беларускім журналістам Яўгенам Гарэлікам у кнізе "Курапаты. Польскі след", якая выйшла летам 1996 года ў Варшаве.

Вернемся да падзей 1939 года. Менавіта тады "любоў" паміж ярым антыфашыстам Сталіным і заклятым антыкамуністам Гітлерам павергла людзей усяго свету ў стан шоку. На самай справе нічога дзіўнага ў гэтай з'яве не было. Крайнасці заўсёды зыходзяцца, да таго ж было нямала і падабенства ў сталінізме і фашызме...

18 жніўня 1940 года Гітлер падпісаў дырэктыву N21, больш вядомую як план "Барбароса". Да пачатку Вялікай Айчыннай заставалася паўгода...

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

